
Хор у Крынках→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Як калядавалі ў Арэшкаве→12

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 03 (2958) Год LVIII | Беласток, 20 студзеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Ужо традыцыйна Праваслаўны асяродак міласэрнасці „Элеос”, супольна з Брацтвам св. Мікалая сарганізаваў у Беластоку Куццю Божага Нараджэння для самотных у беластоцкім Цэнтры праваслаўнай культуры, а некалькі гадзін раней для бяздомных у сталоўцы па вуліцы Варшаўскай. У святочнай сустрэчы адзінокіх пажадала ўдзельнічаць каля дзевяноста асоб. Прыйшло больш. Архіепіскап Беластоцка-Гданьскай епархіі Іакаў, вітаючыся з прыбылымі заўважыў: — Бачу, што вас больш, чым у папярэднія гады. Гэта значыць, што і адзінокіх у Беластоку болей.

# Куцця самотных

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Марк Масальскі, шматгадовы кіраўнік асяродка „Элеос”, а заадно падляшскі радны да апошняй хвіліны да пачатку каляднай вячэры дбаў, каб усё ішло ўрачыста і ў прыўзнятым настрої — якраз святочна:

— Наш асяродак разам з Брацтвам св. Мікалая шмат гадоў арганізуе Куццю для ўбогіх і адзінокіх асоб. Цешуся, што так шмат асоб прыходзіць да нас і супольна можам падзяліцца прасфорай. Вельмі стараемся, каб кожны, хто самотны ці жыве ў нястачы, не быў адзін у той час. Гэтыя людзі адчуваюць тут сябе як у сябе. Шмат з іх ужо знаёмыя, і часта гэта такія калядныя знаёмствы.

Перад супольнай малітвай заўважыў:

— Думаю, што ў цяперашні час самотным, дарэчы, як і кожнаму, нялёгка жыць. Чалавек з'яўляецца такой істотай, якой патрэбнае асяроддзе, у якім можа жыць. Часта забываемся, што самотныя асобы гэта таксама асобы ў нястачы. І не толькі пры нагодзе такіх свят трэба ім аказваць падтрымку. У адзіноцтве найгоршае тое, што чалавек не мае з кім падзяліцца не толькі прасфорай, але і сваім жалем, і самім сабой, што адчувае сябе непатрэбным. Чалавек неадзінокі і здаровы мае большыя магчымасці падзяліцца самім сабою. Мусім шукаць іншых людзей, асяроддзя, каб быць супольна з Богам.

Адной з адказных за падрыхтоўку куцці ў Цэнтры была Галіна Трахімчык з Брацтва св. Мікалая:

— З'явіліся таксама тыя, хто быў на куцці на Варшаўскай. Людзі ахвотна прыходзяць сюды на куццю, бо ведаюць, што тут добра: добрыя людзі і добрыя стравы.

Неўрахірург Ян Кахановіч, старшыня Брацтва св. Мікалая:

— Як старшыня Брацтва я тут з абавязку, і з прыемнасці. У гэты асаблівы перыяд адзінокія ў своеасаблівы спосаб перажываюць свята. Дзейнасць Брацтва гэта не толькі сустрэчы і радасць штодзень, але і дапамога, напрыклад, асобам самотным. Супольна з Асяродкам міласэрнасці можам іншым людзям даць надзею, але таксама і для саміх сабе, што як будзем старымі і нядужымі, не будзем зусім адзінокімі.



У Цэнтр прыйшлі перш за ўсё пажылыя людзі, якія адчуваюць адзіноту. Некаторыя з сужэнцамі. Прыкмеціў таксама пару мамаў з дарослымі сынамі.

Пані Ядвіга дзялілася з „Нівай” думкамі, якія спадарожнічалі ёй у гэты момант:

— Нельга ў гэтае з найважнейшых свят быць аднаму дома. Трэба да людзей. Цяжка і бедна жывецца аднаму.

Іншая са старэйшых жанчын:

— Я прыйшла на куццю, бо пачула, як аб'яўлялі па тэлебачанні. Я тут першы раз. Мужа пахавала ўжо шэсць месяцаў таму. Засталася я адна, і пуста ў хаце. Сабе на гэтыя святы жадаю толькі здароўя, больш нічога. А дзеці... *(маўчанне)*.

Яшчэ іншая:

— Калі яшчэ жылі мае бацькі, на каляду ў маім доме мусілі быць і куцця, кісель з аўсянай мукі, і сена пад абрусам. У куце тата ставіў снапок збожжа, каб увесь час быў дабрабыт. Бацькі ўжо даўно памерлі. Дзеці за мяжой.

Спадар Антон:

— Я тут не першы раз. Заўсёды сюды прыходжу на куццю. Дзеці далёка адсюль і няма магчымасці, каб пры такіх святах супольна сустрэцца. Тут можна разам паспяваць калядкі, разам памаліцца. Не перашкаджае мне, што не ведаю нікога, хто сядзіць за сталом. Мы ж штодзень побач чужых людзей, якіх не ведаем: ці то ў аўтобусе, ці ў крамах, ці на вуліцы. Я ўжо пенсіянер. Усё, што меў дасягнуць, здабыў. Дык цяпер тое, што найважнейшае — гэта здароўе.

За калядным сталом хапала баршчу, усялякіх рыб, салатаў, садавіны ці пячэння ды, вядома, куцці, якія падавалі элегантныя афіцыянты. Былі таксама салодкія калядныя пачкі. Перад тым як падзяліцца прасфорай архіепіскап Іакаў сказаў:

— Няхай радасць надзеі на жыццё вечнае памагае нам знаходзіць радасць у гэтым жыцці, паколькі жыццё не канчаецца тут на зямлі, але і ёсць вечнае разам з Хрыстом. Радасць нараджэння Хрыста і яго ўваскрашэння дазваляюць нам перамагчы ўсе праблемы ў жыцці.

Звычайна з нагоды свята Хрыстовага Раджджаства ліст вернікам перадаў Сабор епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. Напісана ў ім м.інш.: „Нішто іншае, як навука Хрыста, пакінута нам і без змен захаваная ў Святой Праваслаўнай Царкве, з'яўляецца для нас фундаментам, на якім павінны мы будаваць сваё жыццё і без страху сведчыць аб праўдзе Богачалавека Хрыста, які нам напамінае: „Будзьце мужнымі, Я перамог свет”.

Епіскапы ўспомнілі аб далейшым развіцці духовага жыцця, чаго вынікам з'яўляюцца новыя храмы і шматлікія рамонты святых месцаў („што з'яўляецца пладом жывой веры”) ды аб мінулагоднім візіце ў Польшчу патрыярха Масквы і ўсяе Русі Кірыла і іерархаў іншых Цэркваў свету. „Асаблівыя пачуцці” накіравалі да моладзі і дзяцей і заклікалі іх да „ўваходу ў выслак сваіх Бацькоў і Матак, узбагачаючыся духоўнымі багаццем і гісторыяй Святой Праваслаўнай Царквы”.





# Кансервы без тамату

Мінулі навагоднія святы і беларуская палітычная апазіцыя ажывілася. Ледзь не кожны дзень чуваць новыя ініцыятывы і прапановы. Але не пакідае ўражанне, што заявы гэтыя робяцца толькі з аднае прычыны — маўляў, нельга сядзець, трэба нешта абавязкова рабіць, трэба дзеіць. З іншага боку, ёсць і адваротная пазіцыя — „ні міру ні вайны, а армію распусціць”, ці іншымі словамі як у народнай прымаўцы — сядзі ў будзе і чакай, што будзе. Адны з году ў год заклікаюць ісці ў масы, даводзіць народу праўду і шырыць ужо досыць хісткія шэрагі партыйных і грамадскіх структур. Іншыя прапаноўваюць кшталтаваць эліты і чакаць ні то сацыяльных зрухаў, ні то „самавыспявання” таго ж народа. Па гэтай прыкмеце аформіліся лагеры „ўдзельнікаў” і „байкотчыкаў”.

Для ўсіх, хто хоць раз сур'ёзна браўся аналізаваць сітуацыю, відавочна, што кожнага, хто на тым ці іншым этапе выяўляе сябе як сапраўды ўплывовы ці досыць радыкальны лідар, улада, якая мае процьму рэпрэсіўных механізмаў, нейтралізуе. Зянон Пазьняк у сярэдзіне дзевяностых гадоў, Аляксандар Казулін у 2006 г., Андрэй Саннікаў у 2010 г. — абараніць іх і захаваць як адзінага лідара апазіцыі не было ніякіх шанцаў. Ці ў змозе зараз хтонебудзь з іх прэтэндаваць на статус адзінага — адказ ляжыць на паверхні — канешне не. Яшчэ шэраг грамадска-палітычных аўтарытэтных лідараў — Мікола Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Павал Севярынец, Зміцер Дашкевіч — дагэтуль у зняволенні і могуць уздымаць агульную сітуацыю толькі сваім нязломным духам, але ніяк не могуць уплываць на фармаванне адзінай апазіцыйнай стратэгіі. Што застаецца — выбіраць з замшэлай абоймы дзесятка асоб, якія ўжо неаднаразова мелі шанцы выявіць сябе і альбо не выявілі належна, альбо ўвогуле паказалі сябе адмоўна?! Таму ідэя „праймерыз” — папярэдніх выбараў „адзінага”, немажлівая для рэалізацыі ў прынцыпе. Ніхто ўсё роўна не здолее выпрацаваць ні алгарытму, ні механізма яго выяўлення. Варта тут успомніць якім пшыкам скончылася ідэя альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў у 1996 г. Яшчэ адна аналагічная ідэя — зладзіць папярэдняе галасаванне праз інтэрнэт увогуле не падлягае сур'ёзнаму разгляду.

Апошнім часам набрала сілу тэндэнцыя катэгарычна ацэньваць існую апазіцыю. Па-рознаму паводзяць сябе і тыя апазіцыянеры, якія апынуліся за мяжой, ратуючыся ад пераследу. Адны палітэмігранты выказваюць свае меркаванні і робяць тое, што могуць. Іншыя ж, катэгарычныя ў сваіх ацэнках настолькі, што адмаўляюць увогуле „сістэмнай апазіцыі” ў праве на дзейнасць, абвяшчаючы яе банкрутам, пры тым часта прыпісваюць сабе заслугі, якія здабываліся агульнымі сіламі. Усё гэта выглядае не вельмі прыстойна.

Цяперашняя апазіцыя ў Беларусі нагадвае шпроты, якія змешчаны ў кансервавую бляшанку. Адкрыць бляшанку ўлада можа дазволіць, але рыбкі ўжо не паплывуць. Для насельніцтва ж гэтыя бляшанкі даўно адчыненыя, але ні то тамат выветрыўся, ні то кансервы пратэрмінаваныя — заглынаць прынаду „піпл” не хоча.

У Беларусі ўлада, апазіцыя і астатняя (найбольшая колькасцю) частка грамадзян сёння як тры паралельныя светы, часам яны перасякаюцца, але пераважна існуюць нібы самі па сабе. Зразумела, што ў такой сітуацыі як зараз, улада нізашто не сядзе за стол перамоваў з апазіцыяй. Зразумела, што апазіцыя ніколі не даможацца нічога пазітыўнага на такіх „выбарах”, якія падсоўвае ёй улада. І зразумелы яшчэ адзін вельмі важны момант — як выразна прадэманстравала мінулагодняя кампанія ў „парламент” — большыня выбарцаў не хоча браць удзелу ў такіх спектаклях. Гэта зыходныя моманты, на якія і мусіць абапірацца апазіцыя. Яна не можа ніяк наўпрост рыхтаваць новую „плошчу”. На маю думку, яе правільны шлях у тым, каб гуртаваць сілы, выжыць фізічна і псіхалагічна, распрацоўваць законапраекты трансфармацыі дзяржаўнай улады, рыхтаваць людзей на ключавыя пасты і пасады, мацаваць салідарнасць, змагацца за ўсё беларускае, нацыянальнае, нават у малых праявах.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Аповед матыля

Прыгожую маем вясну гэтай зімою! Толькі студзень, а тэмпература блізкая Цэльсіевага нуля. Праўда гэта, што з начным адхіленнем тэмпературы ніжэй, ды на працягу дня зноў вышэй. Прытым неабавязкова крыху. Таму рэшткі спурхлелага снегу маланкава распускаюцца ў разлеглыя калюжыны. Адна такая распаўзлася пад вокнамі маёй хаты, таму маю яе на вачах. Там такая смольная вада, як пасля купання сотні дрывасекаў. Усё ж, адбітае ў ёй неба ззяе чыстым блакітам. Нават высокія воблачкі пагодліва люстрацца на цёмнай глыбіні. Ды... хопіць гэтых распаэтычненых хваляванняў.

Прыгнятае мяне проза жыцця. Замест канца свету дачакаўся я канца каляндарнага года. А тут рахункі неаплачаныя, сяброўскія даўгі непааддаваныя. Ці гэта таму, што я так упарта чакаў таго віднага канца свету? От такога: шурум-бурум, і па праблемах! А тут на табе! Свет кіруецца да свайго знішчэння няспешна, памаленьку і паслядоўна быццам судовы прыстаў з даручэннем аб аплаце з нявызначаным тэрмінам. Невядома калі ён пастукае ў дзверы, ды ўсё ж пастукае. Урэшце ж наша жыццё гэта толькі крэдыт, які трэба пагасіць. Прытым з вялікім працэнтам. Ніякі канец свету не звольніць нас ад таго абавязку. Няма ад гэтага адклікання. Прытым свет мае больш канцоў чым мы мяркуем. Таму, вось, невядома, якога нам найбольш трэба баяцца. Напрыклад, мая суседка Філіпашчынская штодзень варыць боршч. Раз на рабрынках, ды гэта рэдка, бо найчасцей посны, бо на такі ёй стае. Ды не дай Бог, каб не паспела яго зварыць перад вяртаннем стомленага лясной работай мужа, значыць, Філіпашчынскага. Калі б ён свае міскі не дастаў пад нос, вось дык тады быў бы канец свету! І падумайце толькі, колькі залежыць ад такога дурнога баршчу! Іншая справа, што калі б не той чортавы боршч, гэтая Філіпашчынская і гэты яе муж Філіпашчынскі, калі б не штодзённая знясільваючая праца кожнага з нас, дык свет ужо даўно распаўся б на дробныя кавалачкі. А так застаўся цэлым. Як штодзень.

І так пражылі мы чарговы год без канца свету. Колькі гэта месяцаў, колькі гэта дзён, а колькі ж гадзін, хвілін, секунд? Ды пакінем у спакоі лікі. Кожны чалавек жыве па сваёй мерцы. Жыцця да жыцця параўнаць не ўдасца. Ані радасці да радасці, і болю да болю. Калі добра задумацца, дык і так не запамятаем з мінулага года больш чым некалькі дзён, а можа толькі іх недакладных фрагментаў, сціснутых да асабліва прыгожых ці асабліва балючых хвілін. Нават дадаючы іх да сваёй памяці як найбольш скрупулёзна, не назбіраем іх столькі, каб склаліся на адну працяглую гадзіну ўспамінаў. Дык чым адрозніваецца чалавек ад эфемернага матыля? Хіба толькі тым, што ў матыля няма як спытацца пра ўзрост. Бо сумленны адказ на адно пытанне заняў бы яму столькі часу, колькі працягваецца ягонае жыццё. Дарэчы, гэта цікава, што таксама мерай чалавечага жыцця могуць быць пытанні пакінутыя без адказу. Дарэчы, так як і таму матылю, не хапіла б нам жыцця, каб адказаць на ўсе пытанні. Ці напэўна? Цяжка адказаць. У любым выпадку для шмат каго з нас гэта добрае апраўданне. Мала хто адрабляе сваё жыццё інакш чым толькі збольшага, абы-як, абы нашто, абы... І так прамільгае хвіліна за хвілінай, дзень за днём.

Прыкра, што мы абмежаваны нашай смяртнасцю. У нічым гэта, аднак, не апраўдвае нашага невуцтва, калі марнуем дадзены нам час. Мы занадта занятыя нашымі вялікімі і малымі справамі, нашымі боязямі і фобіямі, каб прыкмеціць, што ў кожнай мінаючай разам з намі хвіліне выпрабоўваем паўнату нашай экзістэнцыі. Можа таму ў адчуванні віны раздзіраем наша жыццё на шматкі: на мінаючыя секунды, хвіліны, гадзіны; можа таму расцягнем яго на дні, месяцы і гады... Каб хаця б захаваць у памяці больш страчанага часу. Аднак боль не можа быць мэтай нашага жыцця. Нельга нам адымаць сабе апетыт на малыя радасці. Яны таксама змяшчаюцца ў гэтай адной хвіліне, у якой адчуваем боль. Адно другому не пярэчыць. Хопіць паглядзець на гэта з больш адлеглай перспектывы, якой з'яўляецца наша жыццё. З берагамі напаўняюць яго радасць і заадно пакута. Таму няма хіба лепшай прычыны для таго, каб звалачыся як штодзень з ложка і стаць перад светам тварам у твар, чым думка, што і адно, і другое спатыкаецца ў нас у тую самую хвіліну — у нашым і толькі нашым жыцці. Ці сапраўды даўжэйшым ад жыцця матыля?

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Наша Міра намінавана



Дваццаць адно кніжнае выданне, у тым ліку празатарскія творы, паэзія, а нават комікс былі заяўлены да літаратурнай прэміі прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага за 2012 год. У сціслую пяцёрку намінантаў увайшла наша рэдакцыйная сяброўка, паэтэса, празаік і перакладчыца, народжаная ў Гайнаўцы Міра Лукша са зборнікам „Biały stok” (так, так, пісанае раздзельна). Яе канкурэнтамі ў катэгорыі паэзіі з'яўляюцца Войцех Рашкоўскі звязаны з Тыкоцінам з томікам вершаў „Dworzec świętego Łazarza” і Дарыюш Адамоўскі родам з Сямятыч з „Gub, trać, porzucaj”. Калектыў капітула ў складзе паэт і эканаміст Дарыюш Кялчэўскі, філолаг-паланіст, навуковы супрацоўнік Універсітэта ў Беластоку Марэк Каханоўскі ды літаратуразнаўца праф. Іаланта Штахельская, старшыня Капітула намінавалі таксама двух аўтараў празатарскіх твораў: Кшыштафа Гедройца за кнігу „Piwonia, niemowa, głosy” ды Тадэвуша Слабадзянка за „Śmierć proroka i inne historie o końcu świata”. Да ўзнагарод былі заяўлены (падаваць заяву на кандыдата да ўзнагароды можа кожны) м.інш. Ежы Плютовіч за зборнік вершаў „Miasto małe jak łza” ды за ўсе творчыя дасягненні, а таксама Радаслаў Раманюк за біяграфію Ярослава Івашкевіча. На жаль, не апынуліся яны сярод намінантаў.

Аўтару з беластоцкага асяроддзя гэтая ўзнагарода была прызначана першы раз дзень да трэцяй гадавіны несподзяванай смерці выдатнага беластоцкага паэта Веслава Казанэцкага — у 1992 г. З ініцыятывай яе ўстанаўлення выступілі ягоныя сябры. Згодна з рэгламентам конкурсу ўзнагароду атрымаць могуць „творцы, звязаныя з творчым асяроддзем Беластока або якія тут нарадзіліся ці пражываюць, або іхняя творчасць выказвае сувязі з горадам і рэгіёнам, ды творцы, якіх кніжкі выдадзены ў Беластоку”. Узнагарода назначаецца за кнігі выдадзеныя за год папярэджваючы год назначэння ўзнагароды. Лаўрэатамі можа быць найбольш двух аўтараў.

Апошнія намінацыі на чацвярговай прэс-канферэнцыі асабіста вылучыў прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі. Пачаў ён, аднак, на пазнейшае здзіўленне журналістаў, ад заявы: „Няма сёння на гэтай канферэнцыі супер-гіпер важных тэм”.

Адзначыў, што дасюль не ўплываў на рашэнні Капітула і толькі адабрае яго рашэнні. Распытваны мною, якая з кніжак вылучаная гэтай узнагародай яму найбольш спадабалася і ці больш яму даспадобы паэзія ці проза, адказаў:

— Найбольш спадабалася мне „Książka meldunkowa” Яна Камінскага, але таксама і Ігната Карповіча (яе загалоўка не памятаў — М. Х.). Больш чытаю прозу. У апошні час я пад уражаннем біяграфіі Караліны Качароўскай, жонкі прэзідэнта.

Я распытваўся таксама, на якую дапамогу могуць разлічваць лаўрэаты з боку беластоцкіх улад пасля сваёй узнагароды, напрыклад, пры размеркаванні кожныя паўгода датацый на культурныя мерапрыемствы. Пачуў:

— Гэтая ўзнагарода ўпісваецца ў рэалізацыю культурнай гарадской палітыкі. Гарадская ўправа купляе гэтыя кнігі ў вялікай колькасці.

На пытанне пра дапамогу лаўрэатам назаўтра пасля канферэнцыі ў „Аб'ектыве” Тэлебачання Беласток адказала віцэ-прэзідэнт Беластока па справах культуры Рэната Пшыгодзкая:

— У конкурсе культурных прапаноў лаўрэаты, якія хадайнічаюць за датацыі, маюць прэферэнцыі, дадатковыя балы.

Вернемся да Міркі. Прафесар Штахельская ў адным з медыйных выказванняў заявіла:

— Міра Лукша напісала адзін з лепшых зборнікаў у сваёй творчасці. У навейшым томе ў спосаб вельмі меланхалічны расказвае пра прастору Беластока.

Уручэнне ўзнагарод адбудзецца 1 сакавіка. За Міру ўся наша рэдакцыя трымае пальцы.

**Мацей ХАДАДОЎСКІ**

Іаанна ЧАБАН

# Вялікія дні крынскай музыкі

**Калі б запытаць любога жыхара нашага ваяводства чым славіцца маленькі, памежны гарадок Крынкі, ён напэўна адказаў бы, што чыстай вадой, цэнтральным дарожным колам, а магчыма і расісцкімі выбрыкамі. Мала праўдападобна што хтосьці згадаў бы спеў. Апошнія доўгія дзесяцігоддзі не былі спрыяльнымі мясцовай, народнай песні. Самі крынчане трактавалі яе нараўне з крымінальным злачынствам. Яшчэ ў 1980-х гадах міліцыянеры толькі чакалі з палкамі пад дзвярамі мясцовай карчмы, якая ледзь спраўлялася з безупынным натоўпам кліентаў, каб дабрацца да задніцы вяртаючагася дахаты з рускай ці беларускай песняй на вуснах спевака. Памілавання не было. Папулярызацыя такога тыпу рэпертуару пагражала, а хто ведае ці яшчэ не пагражае тут самымі суровымі пакараннямі, у тым ліку сацыяльнай ізаляцыяй ці стратай працы. Таму крынчане спяваць пасвойму перасталі, хто ведае ці не назаўсёды. Хто хоча, можа паказацца на мясцовай сцэне па-польску і на мовах краін, якія знаходзяцца на поўнач, поўдзень і захад ад Крынак.**


Восіп Пералайка (у цэнтры) з крынскімі харыстамі


Магіла Восіпа Пералайкі


Рукапіс рэгента Пералайкі

Фота Іаанны ЧАБАН




Пакуль усё што найпрыгажэйшае і найдаражэйшае скрываецца ў запыленых куфрах старых хат, якіх у Крынках з году ў год становіцца менш. Там, пад заіржавелай засцежкай, захоўваюцца сапраўдныя, незвычайныя і прытым нікому непатрэбныя гісторыі. У адзін з такіх куфраў заглянем разам з 88-гадовай Нінай Клімук і 84-гадовым Анатолем Шыгаловічам з Крынак. Яны абое ў нейкім сэнсе вельмі на сябе падобныя. Вядома, яны прадстаўнікі адыходзячага пакалення. Яшчэ яны аднолькава адкрытыя і добрыя для людзей. У іх высокая асабістая культура і жыццёвая інтэлігенцыя. Спатканне з такімі людзьмі гэта сапраўднае шчасце. Тут не толькі можна навучыцца здароваму падыходу да жыцця, але і даведацца таго, чаго ў ніводнай кніжцы не прачытаць.

Так склалася, што спадарыня Ніна, як і спадар Анатоль з'яўляюцца самымі лепшымі спевакамі ў Крынках. Свой талент яны прысвяцілі ў асноўным царкве. Спадарыня Ніна правяла на клірасе сорак гадоў свайго жыцця, а спадар Анатоль служыць там да сённяшняга дня. Яны з тугой успамінаюць колішняга царкоўнага рэгента Восіпа Фёдаравіча Пералайку, стваральніка сапраўднага і самага лепшага хору мабыць ва ўсёй больш за пяцісотгадовай гісторыі мястэчка. Прыехаў ён у Крынкі з-пад недалёкай Гародні пасля Першай сусветнай вайны. Мясцовыя гавораць, што быў балахоўцам, які ўцякаў ад саветаў. Праўда, ніхто ніколі не бачыў, каб хаця раз у цэлым крынскім жыцці адпраўляўся ў госці да падгродзенскіх сваякоў. У прошлым годзе нейкія землякі прыязджалі сюды за ўспамінамі і ў пошуках слядоў выдатнага рэгента. Яны, між іншым, наведалі хату Анатоля Шыгаловіча.

Спадар Анатоль раскладвае на стале невыразныя ксеракопіі фармату А4 старых, крынскіх фотаздымкаў. Сярод іх ёсць і выява славутага дырыжора з харыстамі з 1930-х гадоў. Прыгожы мужчына з фізіяноміяй Язэпа Варонкі сядзіць у цэнтры немалой грамады не менш элегантных крынскіх дам і кавалераў. На здымку спадар Анатоль распазнае свайго бацьку — Міхаіла, Славаміра Пратасевіча з вуліцы Касцельнай, Курчука, Раісу, прозвішча якой адышло з яго памяці. Ёсць там і Крывашэй з Гродзенскай вуліцы і выдатная альт Кішкеліха. Відаць і Ёзіка Шыгаловіча — царкоўнага стоража, якога называлі Званаром. На здымку побач рэгента сядзіць яго жонка, выдатная спявачка Жэня з роду Кішкеляў.

Тут таксама Шура з Украіны, выпускнік духоўнай семінарыі, адзін з асіміляваных балахоўцаў. Знайшоў ён сабе жонку з мясцовых дзевак, але туга па роднай хаце не давала спакою. Надта хацеў вяртацца на радзіму. Яго мары збыліся пасля Другой сусветнай вайны. Потым прыслаў ён здымкі з царквы, у якой служыў бацюшкам.

Вядома, у міжваенным перыядзе праваслаўным жылося тут нялёгка. Ім забаранялі, між іншым, прадаваць і набываць зямлю, забіралі храмы. Спадар Анатоль успамінае як у 1938 годзе мясцовая гарадская ўправа атрымала пісьмо з міністэрства з загадам увесці ў царкву польскую мову. Крынскія паліцыянты спецыяльна прыходзілі на царкоўныя службы, каб пільнаваць выкананне загаду. Пералайка, будучы пад націскам, пачаў вучыць польскую версію малітвы да прасвятой Багародзіцы „Пад Тваю міласць", а бацюшка рыхтаваў польскія пропаведзі. Пачуўшы чужую мову, людзі дэманстратыўна выходзілі з царквы, не захацеўшы падпарадкавацца пастановам польскіх улад. З сучаснай перспектывы цяжка паверыць, што тагачасныя крынчане згуртуліся і ў гарадскі магістрат адправілі дэлегацыю са спецыяльным пісьмом супраць польскай мовы ў царкве.

— Калісь людзі дружнейшыя былі, — тлумачыць спадар Анатоль, — свайго трымаліся.

Пералайка быў выдатным рэгентам, добра разбіраўся ў нотах, сам распісваў музыку. У спадара Анатоля збераглісія ксеракопіі ягоных рукапісаў. Некаторыя песні вельмі прыгожыя, але забытыя. Ніхто ўжо да іх не заглядае. Марай спадара Анатоля з'яўляецца даць ім новае жыццё ў час цяперашніх багаслужбаў. Спадар Анатоль ужо ў дзевяцігадовым узросце таварышаваў свайму бацьку на клірасе. Так хлопчыку спадабалася, што з царкоўным хорам звязаўся назаўсёды. Пералайка трымаў дысцыпліну. Рэпетыцыі праводзіліся кожны тыдзень пры абавязковай прысутнасці абсалютна ўсіх пеўчых. Пры дапамозе камертона ці скрыпкі хормайстар развучваў кожную партыю паасобку. Збіраліся ў царкве альбо ў яго хаце, на месцы якой потым паставілі плябанію. Ахвотна тады прыходзілі, тэлевізараў не ведалі, то і адцягвацца было нечым. А і спяваць у царкоўным хоры было вялікім гонарам. Пералайка асабіста шукаў здольных пеўчых. На рэпетыцыі запрашаў даволі багата людзей, але пасля сур'ёзнага адбору многія адпадалі. Абы-каго на хор не ўпускаў.

— Маёй наймалодшай дачцэ Олі было тады шэсць гадоў, — распавядае Ніна Клімук. — Як на царкве спявалі „Верую" ці „Отчэ шаш", то і я спявала. Аднойчы падышоў да мяне Восіп Фёдаравіч і як учапіўся: «Хадзіце, Ніна, і хадзіце, Ніна». Я гавару, што дзеці малыя, няма з кім іх пакінуць, а ён: «Бярыце Олечку з сабою». Так я і пайшла туды на сорак гадоў. Спявала пакуль сіл хапала. Колькі я маю з таго часу сшыткаў пазапісваных песнямі і акафістамі. Усё зберагаю. Такога хору як у нас, нідзе не было, — падсумоўвае Ніна Клімук.

— Раз у год, на прастольнае свята Багача рэгент рыхтаваў гасціну ўсім харыстам. Тады заадно наведвалі хату бацюшкі, каб паспяваць гасцям пры абедзе. Музыка здавалася быць яму найважнейшай, — успамінае Анатоль Шыгаловіч. — Сур'ёзна ставіўся да гэтай справы, часам мог і знервавацца, дарэчы, як кожны сапраўдны артыст. Апрача царкоўных Пералайка ўводзіў рускія і беларускія народныя творы. Рэпетыцыі гэтага рэпертуару вяліся ў святліцы па вуліцы Гродзенскай. Хор меў нават беларускую, народную вопратку, у якой, між іншым, выступаў на цэнтральных дажынках у Кракаве. Гэта было ў 1952 годзе, пры Беруце. За ўдалае выступленне крынскаму хору ўручылі радыёпрыёмнік, які тады быў вялікай рэдкасцю. Тут, па вуліцы Бэма, дзе цяпер знаходзіцца пажарнае дэпо, калісь стаялі банк і кінатэатр. У кіназале ладзіліся афіцыйныя мерапрыемствы. Аднойчы ў Крынкі са службовым візітам з'ехаў гродзенскі староста. Ведаючы папулярнасць крынскіх харыстаў, захацеў іх паслухаць. Запрасілі іх у кіназалу, але каб было справядліва, папрасілі выступіць і касцельны хор. Гэты астатні здаўся. Не хапіла ім адвагі, каб стаяць на адной сцэне са славутым маэстра Восіпам Фёдаравічам і яго адданай камандай.

Асабістае жыццё Пералайкі не было самым шчаслівым хаця б з-за немагчымасці наведваць родную Беларусь. Да таго і з жанчынамі не вельмі яму шанцавала. У Крынкі папаў будучы маладым, прыгожым кавалерам.

— Пры Старым Двары жылі тры маладыя Кішкелянкі. Зараз прысваталі яму адну, — распавядае спадар Анатоль. — На жаль, жанчына яшчэ да шлюбу памерла. Прыгаварылі тады ўзяць сястру. Нядоўга яны пажылі, бо і гэтая хутка скончалася. Толькі трэцяя — Жэня, з якой звязаўся сямейнымі адносінамі, пераджыла яго. З гэтага вянца нарадзілася адна дачка, якая закончыла вышэйшую адукацыю і паехала жыць у Беласток. Яе таксама няма ўжо ў жывых.

Крынскае музычнае жыццё закончылася ў 1954 годзе разам з раптоўным адыходам з жыцця вялікага хормайстра.

— Яму толькі 63 гады было. Мог яшчэ пажыць. Ай як усе па ім плакалі, — успамінае спадарыня Ніна. — Такога як ён рэгента ніколі не было і не будзе.

Цела Восіпа Фёдаравіча пахавалі на гаронаровым месцы, пры самой царкве. Пасля яго смерці хор не змог пазбірацца і ўжо ніколі не пазбіраўся. Зараз пасля канчыны Пералайкі харысты спявалі самі, без рэгента. Чакалі чарговага прафесіянала і не дачакаліся. Запрашалі добрага музыканта з Мастаўлянаў — Яна Мікуцэ, які потым выдатна запісаўся ў гісторыі недалёкага Вастраўскага прыхода, выконваючы там рэгенцкую паслугу. Рэакцыя была адмоўная. Мікуцю не хапіла адвагі заняць месца вялікага папярэдніка.

Сваіх сіл у дырыжорстве захацеў паспрабаваць адзін з харыстаў — Віця Анісімовіч, які таксама крыху іграў на гітары. Доўга ён не папрацаваў, бо неўзабаве памёр. Прыйшоў час і на самога Анатоля Шыгаловіча, які, абучыўшыся ў царкоўных уставах, дапамагаў бацюшку весці царкоўныя багаслужбы. Яго спакойны, добры характар не дазваляў утрымаць дысцыпліну ў хоры. На той свет пачалі адыходзіць і астатнія вучні Пералайкі, забіраючы з сабой памяць пра вялікія дні крынскай царкоўнай і народнай музыкі.

## Святочная „Ніва”

Як штогод так і сёлета забраўся я распаўсюджваць „Ніву” з календаром. Узятыя пачаткова семдзесят экземпляраў разышліся быццам свежыя булачкі. Пазней яшчэ прадаў трыццаць экземпляраў дадаткова ўзятых у рэдакцыі. Спадзяюся, што не будзе гэта канчатковы вынік. Варта адзначыць, што ў Чаромсе няма кіёска „Рух”, а мясцовыя крамы не займаюцца продажам тыднёвіка. Адно пошта дбае, каб у кожную хату ў перадкалядны час трапіла „Ніва”. Як мне сказала мясцовая пісьманосец, раён Чаромхі абслугоўваюць трое прадаўцоў і кожны з іх атрымаў з кляшчэлеўскай пошты па сто экземпляраў „Нівы”. Яна ўсе сто прадала. Мабыць, і апошнія пісьманосцы паспяхова справіліся з задачай. Калі б да таго дадаць філіял пошты ў Чаромсе, дык у агульным ліку ў Чаромхаўскай гміне разышлося б больш за чатырыста экземпляраў. Як мне гаварыла солтыс вёскі Палічна Альжбета Каравай, наш тыднёвік карыстаўся вялікім поспехам і ў іхняй вёсцы. Калі я паспрабаваў прапанаваць „Ніву” з календаром 21 снежня на экуменічнай сустрэчы (удзельнічала ў ёй каля пяцідзесяці чалавек), пачуў адказ: „А мы ў пісьманосца купілі”. Засмуціла мяне аднак размова з сябрам дачкі, які выходзіць з Дэніскаў. Яго бацькі купілі адрыўны каляндар, а пра „Ніву” ён не чуў. Намякнуў адно, што ягоная бабуля „Ніву” даўней купляла, бо там „добрыя кавалы” былі. Ці не варта было б бліжэй пацікавіцца справай і наведаць наваколле Храбалоў і Рыбалаў? Усё ж такі пражывае там праваслаўны народ, ды і „Хлопцы — рыбалоўцы” адтуль выводзяцца... **(ус)**

## Юбілейны вечар

У апошнюю лістападаўскую суботу ў Гайнаўскім доме культуры сабраліся людзі, якім ляжыць на сэрцы захаванне для наступных пакаленняў культурнай спадчыны нашых продкаў. У гэты дзень свой трыццацігадовы юбілей святкаваў хор „Рэха пушчы”, рэпертуар якога дазваляе пазнаць духоўны свет нашага народа. Песні, якія выконваліся на юбілейнай вечарыне, былі прасякнуты любоўю да роднага. Радавалі таксама рознакаляровыя строі харыстаў.

Падчас вечарыны ў адрас юбіляраў прагучала многа цёплых, сардэчных слоў. Заслугі хору „Рэха пушчы” былі ўзнагароджаны прадстаўнікамі ўлад Польшчы і Беларусі, самаўрадамі ваяводства, павета і суседніх гмін.

Мне на юбілейнай сустрэчы давялося гутарыць з некаторымі ўдзельнікамі хору-юбіляра. І вось што я пачуў:

— Наш абавязак перад будучымі пакаленнямі — захаванне нашых фальклорных песень.

— Спяваць у хоры — гэта прызванне, улюбёнасць у роднае слова, аддасць яму. Не ўяўляем, як можна жыць, без спеву на роднай мове.

І хоць трымаць высокі выканальніцкі ўзровень сёння нялёгка, „Рэха пушчы” працуе плённа, у яго многа творчых задум. Жадаю нашым юбілярам творчага плёну і яшчэ многіх гадоў працы на карысць роднай беларускай культуры.

Пра „Рэха пушчы” гавораць як пра візітную картачку Гайнаўкі і ўсяго рэгіёна. Дзякуючы канцэртам хору тысячы людзей адчулі духоўную энергетыку і сілу беларускага фальклору. Юбілейная вечарына закончылася, але цудоўны настрой яшчэ надоўга захаваецца ў гледачоў, гасцей і юбіляраў. Як добра, што народныя традыцыі ў нас зберагаюцца і ўзбагачаюцца. **Віктар БУРА**

# Я не плачу, я рэальна думаю...

**Уладзімір СІДАРУК**



http://www.bialystok.uw.gov.pl

У 47 нумары „Нівы” ад 18 лістапада 2012 года друкаваўся допіс М.К. п.з. „Не ведаю ў чым справа”. Аўтар піша так: „Няма чаго плакаць над разлітым малаком (...). Так як ніхто не верне моладасці з усімі яе добрымі атрыбутамі, так ніхто не верне светлага мінулага чыгуначнай Чаромхі з тысячамі рабочых, якія абслугоўвалі стратэгічны вузлавы цэнтр”. І далей: „Я ўжо не ведаю ў чым справа, спадар Сідарук! Заднае стараны плённы карэспандэнт „Нівы” наракае, што занепаў чыгуначны „стратэгічны вузлавы цэнтр”, а з другой стараны, калі ўлада хоча прызначыць на мадэрнізацыю чыгункі 30 мільярдаў, то экспазе прэм'ер-міністра Туска гэта пустаслоўная гамонка”. Вось што скажу, паважаны калега. Я не „плачу над разлітым малаком”, я рэальна думаю. Прэм'ер-міністр не сказаў у экспазе, што ўрад „прызначае 30 мільярдаў на рэструктурызацыю чыгункі, толькі што „хоча прызначыць”. У маім разуменні „даць”, а „хацець прызначыць” гэта дзве розныя справы. Таму выказванне прэм'ера Туска я назваў „пустаслоўнай гаворкай”. Зараз вядома, што Польшча не атрымае з ЕС 300 мільярдаў. Не будзе таксама 30 мільярдаў на мадэрнізацыю чыгункі. „Спадзяваўся дзед на мёд, то лёг спаць не еўшы” — кажа народная прымаўка.

А наконт заняпаду Чаромхі ў мяне свой пункт гледжання. Памылкай было, на маю думку, расчляненне прадпрыемства ПКП. Гаварылася тады, што дзяржаўная фірма пазбаўленая асновы існавання, бо не дбае пра маёмасць. Падрыхтаваны абы-як закон аб рэструктурызацыі і мадэрнізацыі чыгункі, які ажыццяўляўся ў пачатках дзевяностых гадоў, аказаўся звычайнай няўдачай. Вылучаныя суполкі больш дбалі пра высокааплатныя штаты, чым за прыбытак для прадпрыемства. І чаго дабіліся яны на працягу дваццацігадовага існавання? Забылі ў тупік! Не хапае грошай на аднаўленне табару і мадэрнізацыю чыгуначных ліній. Пустуюць нявыкарыстаныя будынкі. У Чаромсе, напрыклад, у трохпавярховым тэхнічна-адміністрацыйным будынку нявыкарыстаных 1600 квадратных метраў карысной плошчы. У паравозным дэпо — 2200 кв. м., не лічыўшы рамонтнай залы майстэрні. Не гавару аб меншых будынках іншых чыгуначных устаноў. Падобны вобраз прадстаўляюць станцыі ў Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім. Разбураюцца пачакальні на прыпынках, закрываюцца туалеты. Усё робіцца дзеля „эканомікі”. А дзе пашана чалавеку? Аб тым лепш не напамінаць. Скандал вакол шлёнскай чыгункі ў снежні мінулага года быў найлепшым таго доказам. Адзін садом ды гамора! І не адзіны гэта прыклад нядбайнасці і безгаспадарлівасці, якія кампраметуюць упраўляючых. Халтурна збудаваныя дарожная інфраструктура і спартыўныя стадыёны на патрэбы Еўра-2012, Модлінскі аэрапорт, ці ўрэшце 200-мільённая задоўжанасць фірмы „Лёт” сведчаць, што на адказных пасадах апынуліся неадпаведныя людзі. М. К. піша так: „Цяпер такая мода, што ўсе і за ўсё вінаваціць Туска. (...) Дайшло ўжо да таго, што Туск безагаворачна вінаваты незалежна ад таго, што ён зробіць ці скажа”. А каго ж трэба вінаваціць? Усявышняга? Прэм'ер-міністр атрымаў ад прэзідэнта Рэчы Паспалітай мандат на стварэнне ўрада. Туск дабіраў супрацоўнікаў і назначаў іх міністрамі. Затым вымушаны несці палітычную адказнасць за іхнія дзеянні. Для мяне ўсё ясна.

А цяпер некалькі слоў аб беластоцкай чыгунцы. Вось што гаварыў на прэс-канферэнцыі 7 верасня 2012 года маршалак Падляшскага ваяводства Яраслаў Дваржанскі: „Падляшская маршалкоўская ўправа ў бліжэйшыя два гады (2013-2014 — У. С.), прызначыць 31 мільён злотых (адпаведна па 15,5 мільёна ў год). І не можа быць гаворкі аб іх павышэнні”. Затым скарбнік Падляшскага ваяводства Генрык Грыка дадаў: „Не можа быць гаворкі, каб на дафінансаванне чыгункі браць крэдыты”. Канец і кропка. Маючы гэта на ўвазе, Прадпрыемства рэгіянальнай пасажырскай перавозкі ў апошнім раскладзе язды ад 9 снежня 2012 г. адмяніла рух цягнікоў на чарговых лініях. На лініі Чаромха — Беласток, напрыклад, забралі дзве пары цягнікоў. Засталася адна. Людзей бударажыць тое, што адмянілі самы рэнтабельны цягнік а гадз. 6:42, якім дабіралася моладзь у бельскія школы. Некалькі дзесяткаў школьнікаў (патэнцыяльных кліентаў), пакінулі самых сабе. Не дапамаглі пратэсты самаўрадаў. Вось адказ віцэ-маршалка Падляшскага ваяводства Валянціна Карыцкага на службовае пісьмо войта Чарамхоўскай гміны :

„(...) do 31 grudnia 2012 r. na trasie Czeremcha — Białystok kursuje trzy pary pociągów regionalnych w tym pociąg który powinien odjeżdżać z Czeremchy o godz. 6:42. Natomiast od 1 stycznia 2013 r. przewozy kolejowe na tej trasie wykonywane będą na podstawie oferty, która jest wynikiem postępowania w trybie przetargu nieograniczonego, na realizację transportu zbiorowego świadczonego kolejowym transportem osób na terenie Województwa Podlaskiego w latach 2013-2014. Oferowana wielkość rocznej pracy eksploatacyjnej przez wybranego przewoźnika w ilości 64 221 pociągokilometrów przełożyła się również na ilość pociągów na tej linii komunikacyjnej.

W wyniku tego na trasie Czeremcha — Białystok będzie kursować jedna para pociągów codziennie i jedna para pociągów w sobota/niedziela. Powstała ilość kursów pociągów zawęża możliwość organizowania, dopasowania rozkładu do potrzeb dojeżdżających dwóch grup pasażerów do Bielska Podlaskiego i Białegostoku. W związku z tym, aby dać możliwość dojazdu do szkoły i pracy w obu miejscowościach (nie tylko do Bielska Podlaskiego) przyjęto, że pociąg powinien przybyć najpóźniej do Białegostoku na godzinę 7:20. (...) Jednocześnie pragnę nadmienić, że (...) organizatorami publicznego transportu są samorządy wszystkich szczebli oraz ich związki. (...) Samorządy, które są zainteresowane stworzeniem dogodnych warunków dla mobilności swoich wspólnot, współfinansują połączenia realizujące ich potrzeby, dlatego prosimy o deklarację współfinansowania dodatkowego połączenia na tej trasie”.

Прачытаўшы адказ, М. К. пэўна скажа, што зноў плачу над разлітым малаком, бо заступаюся за адмененым цягніком а 6:42. Але ж не. Я хадайнічаю ў грамадскай справе. Паслугамі чыгункі карыстаюцца не толькі жыхары Чаромхі, але і Кляшчэлеўскай, Арлянскай ды Бельскай гмін. І не заносіў бы я прэтэнзій у адрас Маршалкоўскай управы, каб аргументацыя была сэнсоўнай. Але ёсць маленькае але.

На прэс-канферэнцыі 7.09.2012 г. маршалак Дваржанскі канстатаваў: „Nie mamy zamiaru likwidować Przewozów Regionalnych. Chcę, aby to było jasne (...) Ale mówienie, że transport kolejowy to najtańsza i najwygodniejsza forma transportu — to nic bardziej mylnego. Jest drogi, nieopłacalny, a na krótszych trasach również niewygodny”. І якая тут праўда? У адлеглую на амаль 80 кіламетраў Чаромху курсіруе адна пара цягнікоў, а ў бліжэйшае Шэпятова... восем пар. Калі дадамо да таго пяць скорых цягнікоў, якія там спыняюцца, дык атрымаем трынаццаць пар у суткі. Матэматыка простая, кожныя паўтары гадзіны ў Шэпятова курсіруе цягнік! Хацелася б тады запытаць маршалка, колькі дакладае бурмістр гэтага мястэчка да чыгуначных перавозаў? Падобна справа маецца з прыгараднымі Лапамі. Як канстатаваў мой суразмоўца, кіраўнік беластоцкіх кандуктараў, у апошім раскладзе дабавілі ў Лапы адну пару цягнікоў, якой дагэтуль не было ў раскладзе. Затым у Лапы курсіруе зараз чатырнаццаць пар цягнікоў (са скорымі) у суткі. Якімі прывілеямі (бо не прынцыпамі рыначнай эканомікі) карыстаюцца гэтыя мясцовасці? Ці не „пабрацімскімі”?...

І справа апошняя. У таргах пры выбары перавозчыка перамагае прадпрыемства Рэгіянальных перавозаў у Беластоку. Няўжо няма іншай канкурэнцыйнай фірмы? А мо, проста, іншы перавозчык не зможа прабіцца праз „мясцовыя ўклады”? Варта было б пацікавіцца справай.

## Да 150-годдзя Студзеньскага Паўстання

# Пра Кастуся Каліноўскага і яго эпоху

Сяргей ЧЫГРЫН

Яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў паміж беларускімі гісторыкам Міхасём Бічом і літаратуразнаўцам Уладзімірам Казберуком узнікла спрэчка ў пытаннях грамадска-палітычных поглядаў Кастуся Каліноўскага. Уладзімір Казбярук лічыў дзейнасць Кастуся Каліноўскага выключна польскай. Міхась Біч не пагаджаўся з такімі аргументамі і казаў, што погляды Уладзіміра Казберука супадаюць з ацэнкай дзейнасці Кастуся Каліноўскага савецкай гістарыяграфіяй 1930-х гадоў. Але навуковыя даследчыкі пагадзіліся ў адным моманце, што падзеі звязаныя з паўстаннем 1863-1864 гадоў можна лічыць пачаткам беларускай нацыянальнай ідэі ці, прынамсі, пачаткам пачатку.




Пра гэта і пра іншыя факты і падзеі, звязаныя з Кастусём Каліноўскім і яго эпохай у дакументах і культурнай традыцыі можна даведацца з мінскага выдання. Зборнік складаецца з матэрыялаў VII Міжнароднай навуковай канферэнцыі Беларускага гістарычнага таварыства, якая адбылася ў Мінску.

Аўтары кнігі „Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі" цікава і грунтоўна разглядаюць аспекты разгортвання антырасійскага паўстання на беларускіх землях, жыццёвы шлях яго кіраўніка, а таксама духоўную спадчыну Кастуся Каліноўскага і ягонае месца ў беларускай культурнай традыцыі.

Як лічаць гісторыкі Аляксандр Краўцэвіч і Алесь Смалянчук, прыйшоў час правесці свайго роду рэвізію нашых ведаў пра Кастуся Каліноўскага, прасачыць эвалюцыю ягонага вобраза ў нацыянальным дыскурсе і культурнай традыцыі (у першую чаргу ў культурнай памяці, якая пашыраецца з дапамогай мас-медыяў і замацоўваецца ў помніках, назвах вуліц, школ, гістарыяграфіі, падручніках і літаратуры), ацаніць комплекс крыніц даследавання, вызначыць далейшыя яго накірункі. Сапраўды, рэвізія даследчыкам Кастуся Каліноўскага і яго эпохі ўдалася. Гэта відаць па ўсіх разнастайных матэрыялах, якія ўвайшлі ў кнігу.

Кастусь Каліноўскі, які быў родам з вёскі Мастаўляны, што на Беласточчыне, загінуў на шыбеніцы 10 сакавіка 1864 года ў Вільні. Першымі даследчыкамі жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага і паўстання былі польскія даследчыкі. Адным з першых звярнуўся да постаці Кастуся Каліноўскага Агатон Гілер, вядомы дзеяч групоўкі „белых" падчас паўстання. У чатырохтомнай працы „Historia powstania narodu polskiego" (Парыж 1867-1871) гісторык ахарактарызаваў Каліноўскага як галоўнага арганізатара паўстання на Літве, адзначыў ягоную актыўнасць і „нязломнасць характару". Пісалі пра Кастуся Каліноўскага і Аляксандр Навалецкі, Валерый Пшыбароўскі, Баляслаў Ліманоўскі, Людвік Абрамовіч і іншыя польскія даследчыкі. Людвік Абрамовіч адзначаў вялікую ролю Каліноўскага ў паўстанні 1863 года, ягоную папулярнасць сярод радыкальнай моладзі, прыгадаў, што расійскія ўлады называлі яго „дыктатарам Літвы".

Як сцвярджае ў зборніку Алесь Смалянчук, вялікае значэнне мелі даследаванні літоўскага гісторыка і грамадскага дзеяча Аўгусцінаса Янулайціса, які трактаваў Кастуся Каліноўскага, як беларускага нацыянальнага героя, які моцна канфліктаваў з Варшавай.

Беларуская гістарыяграфія жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага пачынаецца з артыкула Вацлава Ластоўскага „Памяці справядлівага", які быў апублікаваны 16 лютага 1916 года ў газеце „Гоман". Потым шмат даследавалі і пісалі пра Каліноўскага і яго эпоху Уладзіслаў Талочка, Іван Цвікевіч, Усевалад Ігнатоўскі, Адам Станкевіч, Вячаслаў Шалькевіч, Генадзь Кісялёў, Анатоль Смірноў і многія іншыя. З артыкуламі ў зборніку „Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі" выступаюць больш маладзейшыя даследчыкі. Напрыклад, Сяргей Токць разважае пра нацыянальны і сацыяльны дыскурсы ў тэкстах „Мужыцкай праўды" і „Рассказов на белорусском наречии", Андрэй Кіштымаў — пра сямейную біяхроніку Каліноўскіх, Ірына Нікуліна — пра ссыльных паўстанцаў 1863-1864 гадоў на Алтаі і г.д. Напрыклад, за ўдзел у паўстанні ў Усць-Каменагорск быў сасланы Ігнат Бурачэўскі з мястэчка Кнышына на Беласточчыне, яму было тады толькі 16 гадоў, але дамоў ён ужо ніколі не вярнуўся. З гэтага самага мястэчка ў Паўладар выслалі і Адольфа Геберта, якому праз 10 гадоў удалося ўсё ж вярнуцца на радзіму.

З вельмі цікавым артыкулам „Фотаздымак як крыніца па гісторыі паўстання 1863 года" выступае ў зборніку Вольга Гарбачова. Справа ў тым, што ў пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя фатаграфія становіцца досыць распаўсюджанай з'явай на беларуска-літоўскіх землях. У гэты час фотамайстэрні дзейнічалі ва ўсіх губернскіх беларускіх гарадах. У Гродне былі фотамайстэрні Штумана, Менцэля, Доўнар-Запольскага, у Мінску — Брафмана, Дэпласэ, Адамовіча, Бжэскага, Антона Прушынскага і г.д. Дарэчы, Антон Прушынскі быў родам з Падляшша, з падляшскай шляхты герба Любіч. Ягоным бацькам належаў маёнтак Асінцы ў Мінскай губерні. Фотамайстэрствам Прушынскі пачаў займацца каля 1850 года. Жаніўся з беднай беларускай дзяўчынай Пелагеяй Кулаковай. Спачатку жыў на Беласточчыне, а потым пераехаў у Мінск. Прушынскі дзейнічаў досыць рызыкоўна. У сваёй майстэрні ён захоўваў крэсла, на спінцы якога змяшчаўся герб з Арлом і Пагоняй. Захавалася шэраг здымкаў, на якіх асобы здымаюцца ў згаданым крэсле (некалькі здымкаў XIX стагоддзя друкуюцца ў зборніку). З пазіцыяў на Беларусі паўстанцкага руху Антон Прушынскі далучыўся да „партыі чырвоных" і ўвайшоў у склад Мінскага паўстанцкага камітэта. Аднак у самым пачатку 1863 года яго арыштавалі і выслалі на жыхарства ў Сібір. І там у Томску Антон Прушынскі трымаў невялікую фотамайстэрню, а абсталяванне туды яму прывезлі з Мінска. У 1873 годзе Прушынскі вярнуўся ў Варшаву, дзе да смерці кіраваў фотамайстэрняй. Фотаздымкі гэтага перыяду знаходзяцца ў аддзеле іканаграфіі Нацыянальнай бібліятэкі Варшавы і ў зборах Гістарычнага музея Варшавы.

Алена Фірыновіч, Андрэй Вашкевіч, Андрэй Унучка, Юрась Бачышча, Аляксандр Пагарэлы ў сваіх артыкулах на падставе архіўных дакументаў і іншых матэрыялаў разважаюць пра Кастуся Каліноўскага і беларускі нацыянальны рух у XX стагоддзі, пра дакументальныя матэрыялы Нацыянальнага архіва Беларусі ў Гродне па гісторыі паўстання 1863-1864 гадоў, пра пытанні інтэрпрэтацыі ідэйнай спадчыны Кастуся Каліноўскага, пра постаць Кастуся Каліноўскага ў друкаванай спадчыне беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў. Напрыклад, кандыдат гістарычных навук Юрась Бачышча адзначае, што „ў хадэцкай друкаванай спадчыне належнае месца адводзілася асобе Кастуся Каліноўскага, які аднaзначна паўставаў як беларускі нацыянальны герой, пачынальнік барацьбы за палітычнае вызваленне беларусаў, чалавек надзвычайных якасцяў і высокага непахіснага духу, які нібыта прарок з'явіўся ў свае маладыя гады на беларускай зямлі, каб прамовіць словы праўды, „мужыцкай праўды" і ўскалыхнуць свой народ да разважання над сваім лёсам і да здабыцця лепшай долі".

Пра беларускага акадэміка Уладзіміра Перцава, які да праблем паўстання 1863-1864 гадоў звярнуўся яшчэ падчас Другой сусветнай вайны ў 1943 годзе, разважае ў зборніку Валянціна Яноўская. Даследчыца распавядае пра самога Перцава і яго адносіны да Кастуся Каліноўскага. Уладзімір Перцаў, як піша Валянціна Яноўская, у тыя няпростыя 1940-я гады для Беларусі смела заявіў і ахарактарызаваў Кастуся Каліноўскага, як „самага яскравага, самааддананага і самага таленавітага дзеяча беларускага паўстання ў часы польскай рэвалюцыі 1863 года".

Гартаючы і чытаючы зборнік „Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі" чытачы з вялікай цікавасцю азнаёмяцца з артыкуламі пра мемарыялізацыю Кастуся Каліноўскага ва ўрбаніміцы Беларусі Івана Сацкевіча, пра вобраз кіраўніка паўстання ў мастацкай літаратуры Настассі Жарскай, пра вексілалагічныя аб'екты ў паўстанні Каліноўскага Андрэя Шулаева, пра Яна Пазняка — першага даследчыка ўдзелу праваслаўнага духавенства ў паўстанні 1863-1864 гадоў Аляксандра Ільіна і шэраг іншых вельмі цікавых і актуальных артыкулаў.

## Пасля перапісу

14 снежня мінулага года вармінска-мазурскі ваявода Мар'ян Падзеўскі сустрэўся з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей. Сустрэча была прысвечана вынікам апошняга перапісу насельніцтва. У вармінска-мазурскім рэгіёне пражывала 1 мільён 452 тысячы жыхароў, што складае 3,8 адсоткаў ад агульнага ліку насельніцтва краіны. Ад апошняга перапісу лік насельніцтва ваяводства ўзбуйніўся на прыблізна 30 тысяч асоб. З нацыянальных меншасцей у ваяводстве пражывае 13 тысяч асоб, дэкларуючых украінскую нацыянальнасць, з таго ліку 9 тысяч адчувае сябе выключна ўкраінцамі. Нямецкую нацыянальнасць задэкларавала пяць тысяч асоб, з іх ліку выключна немцамі адчувае сябе тры тысячы. Лік немцаў паменшаў, што сведчыць пра адміранне найстарэйшага слоя гэтай меншасці і неахвоту маладога пакалення да паказвання нацыянальнай адметнасці.

У Польшчы пражывае 37,2 мільёна асоб, у тым ліку ў гарадах звыш шасцідзесяці адсоткаў, а гэта менш чым паказваў папярэдні перапіс. Расце разрыў паміж лікам жанчын і мужчын — зараз на сто мужчын прыпадае 108 жанчын. Найболып людзей жыве ў Мазавецкім, Шлёнскім і Велькапольскім ваяводствах, а найменш у Апольскім, Любушскім і Падляшскім.

У ходзе перапісу да мяне ніхто не прыходзіў, толькі адна пані пазваніла з Лодзі і пацікавілася, ці дома размаўляю па-беларуску; пра веравызнанне не пытала.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

## Адгалоска

„Wiktor Szwed, nestor literatury białoruskiej na Podlasiu, na początek pochwalił się, iż ma wiele dyplomów i odznaczeń, w tym medal Franciszka Skaryny, przyznany przez władze Białorusi. Żartował, że pół godziny spóźnia się na przygotowane przez żonę śniadanie, bo tyle czasu zajmuje mu... odpięcie medali z pidżamy. Natomiast o swej twórczości powiedział, że do tej pory napisał blisko trzy tysiące wierszy. Kilka z nich przeczytał, prezentując przywiezione ze sobą tomiki".

**„Czasopis" nr 12/2012, fragment tekstu J. Chmielewskiego „Od redaktora"**

## Сумны ўспамін

*Юрку Хмялеўскаму*

*Я на Славянскім фестывылі*
*Не заікнуўся аб медалях.*
*Адам Сяменчык*
*– любіць смешыць –*
*Медалі на піжаме вешаў*
*Шведа – яго ж гэта багацце,*
*Так цяжка з імі падымацца...*
*Ну а „Часопіса" рэдактар*
*Аб медалях пачуўшы факты,*
*Словы насмешлівы Адама*
*У вусны Шведу кладзе прама.*
*І прышпіляе ён таксама*
*Медалі Шведу да піжамы.*
*Швед іх знімае цэлы ранак*
*Спазніўшыся нат на сняданак.*
*І мучыць яго вельмі гэтак*
*Ілгунства моднае ў газетах.*

***Віктар ШВЕД***


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі





# Святочныя пажаданні

Усім нашым сябрам дзякуем за калядныя пажаданні і паштоўкі. Мы пад уражаннем ад вашай вынаходлівасці, шчырасці, мастацкага натхнення. Сярод паштовак у нас — маляванкі, вышыванкі, калажы і нават мастацкія шэдэўры. Вось прыклад — калядная паштоўка згуртавання АБ-БА. Змест і гісторыю пажадання выказваюць выканаўцы „Падляшскіх хронік". Паштоўка ўзнікла з думкай пра нашых суродзічаў са ЗША, якія ў час канікул гасцілі ў Амерыцы беластоцкую моладзь. Такім чынам яны хацелі падзякаваць за незабыўнае падарожжа ў Нью-Йорк. Аўтарам праекта з'яўляецца таленавіты фатограф Юрка Асеннік. Самі пабачце!

**Зорка**

Фота Марысі ЗДРАЙКОЎСКАЙ


Міколка і Аляксандр Здрайкоўскія з Беластока

# Калядкі і дары

Свята Каляд прыдумалі для дзяцей! Хто яшчэ прыгажэй за дзяцей спявае калядкі? Іх песні грэюць душу, кранаюць ласкай і шчырасцю...

У наш час усе любяць спяваць. Звычайна, каб выступіць на фестывалі, у медыях, або разаслаць песенны лінк сям'і і знаёмым. Горш з жывым калядаваннем. Мала каму пашанцуе хадзіць ад хаты да хаты і спантанна здзяйсняць абрад, перажываць, віншаваць гаспадароў на Новы год...

І дзіўна. Медыйны стыль усё ж не забіў традыцыі. Жывы абрад калядавання пачынае жыць у вялікіх гарадах. У час праваслаўных Каляд па беластоцкіх кварталах хадзілі калядоўшчыкі з каляровай гвяздай. У кожнай хаце яны спявалі іншую калядку! Праўда, у гэтым годзе найбольш папулярнай аказалася старабеларускае *Рожджэство Хрыстово, Ангел пролетел*. Такі зварот прамаўляе сілай.

— Мы калядуем, каб павесяліць людзей, — кажа Лукаш. — А ўвесь заробак аддамо для *Wielkiej Orkiestry Świątecznej Pomocy*.

У нядзелю 13 студзеня Лукаш працаваў валанцёрам. Ён, між іншым, збіраў грошыкі ля сваёй царквы.

**Зорка**

## Зіма

*Наталля МАРЧУК*

*Зноў выпаў снег,*
*Прыйшла зімовая пара.*
*Усе надзелі курткі, шапкі*
*І выбеглі гуляць.*
*Робяць снежныя бабулі*
*І снежныя дамы.*
*Калі прыйшоў вечар,*
*У хату ўцяклі.*
*Цяпер сядзяць ля печы*
*І грэюць ручкі і плечы.*
*П'юць гарбату і кампот,*
*Пазяхае за ротам рот.*
*Глядзяць*
*У адкрытыя дзверцы печкі.*
*Зараз пойдуць спаць*
*Усе стомленыя малечы,*
*Каб заўтра зноў мець сілу гуляць.*



# Конкурс пра зіму (3)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Новы год старажытныя славяне адзначалі:**
а) 14 студзеня,
б) 25 сакавіка,
в) 24 чэрвеня.

**2. Дзе ў Беларусі знаходзіцца лядовы палац?**
а) у Слуцку,
б) у Пружанах,
в) у Рэчыцы.

**3. Гадавіну якога беларускага аўтара будзем адзначаць у 2013 годзе?**
а) 80-годдзе з дня нараджэння Міколы Гайдука,
б) 50-годдзе з дня смерці Якуба Коласа,
в) 200-годдзе з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі.

Адказы на конкурс дасылайце да 10 лютага 2013 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі").

**Адказ на конкурс № 52:** 1 — першая зорка (б); 2 — госцік (б), 3 — сонца (а).

Узнагароды — паштоўкі кампаніі „Будзьма беларусамі" выйгралі **Магда Пташынская** і **Уршуля Марчук** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Самае добрае

## (Балгарская народная казка)

Жыў-быў вельмі мудры чалавек. Была ў яго дачка — малая дзяўчынка. Жылі яны ў прыгожым, вялікім доме. А каля дома быў сад, поўны кветак. З раніцы да вечара малая дзяўчынка гуляла ў садзе альбо бегала па пакоях дома. Толькі ў адзіны пакой яна не ўваходзіла, таму што ён заўсёды быў замкнуты.

Аднойчы дзяўчынка пачала ўпрошваць мудраца:

— Дазволь мне, тата, зірнуць на замкнуты пакой! Ён, напэўна, самы добры.

— Там, сапраўды, за дзвярамі ляжыць самае добрае,— адказаў бацька. — Але ты яшчэ зусім маленькая. Вось калі вырасцеш, я дам табе тое, што там захоўваецца. І падарунак гэты будзе радаваць цябе ўсё жыццё.

Расла дзяўчынка і вырасла. Даў ёй мудры чалавек залаты ключ ад таго замкнутага пакоя. Пабегла яна, адчыніла дзверы, і што ж яна ўбачыла? Прасніцу, верацяно і разгорнутую кнігу.

Больш нічога ў пакоі не было.

Пайшла дзяўчынка да бацькі і сказала яму праз слёзы:

— Ты, бацька, мне казаў, што ў гэтым пакоі знаходзіцца самае лепшае, а я там знайшла толькі прасніцу, верацяно і кнігу.

— Але ж гэта, дачка мая, і ёсць самае лепшае,— адказаў ёй мудры чалавек. — Прасніца і верацяно — гэта праца, а кніга — вучэнне. Лепш за іх няма нічога на свеце. Усё добрае на свеце дасягаецца толькі працай і ведамі.




Калядныя віншаванні ад дзяцей з НШ св. КіМ у Беластоку

# Музыка з кайфам

## У падарунку добрым людзям



Не толькі ў святочны час, але ў кожную хвіліну трэба быць добрым для другога чалавека. Святы гэтаму спрыяюць, бо часцей сустракаемся з блізкімі, маем добры настрой, горым ды нас дораць — і гэта, мабыць, найбольш пацяплае адносіны між людзьмі. Гурт „Ilo&friends" ды калектыў „Расспяваны Гарадок" (з Гарадка, зразумела) таксама падрыхтавалі падарунак пад святы, каб сваім слухачам падзякаваць і запрасіць да супольнага калядавання. Падарунак у якасці альбома называецца „Шчодры вечар добрым людзям".

Праца над зместам альбома пачалася яшчэ ў 2010 годзе. Першапачаткова праект запланаваны быў як канцэртная праграма і ў якасці мінітуру вандраваў па Беласточчыне, а год пазней прэзентавалі яго на міжнародным фестывалі калядак у Тарэспалі, на польска-беларускай мяжы. У чарговым годзе гурты, якія паспелі пасябраваць, вырашылі запісаць канцэртную праграму і як альбом несці яе ў свет.

Выдаўцом альбома „Шчодры вечар добрым людзям" з'яўляецца Гарадоцкі цэнтр культуры. Невыпадкова. Калектыў „Расспяваны Гарадок" працуе ў ім пастаянна, а гурт „Ilo&friends" пачынаў свае рэпетыцыі таксама ў Гарадку, бо і большая частка яго сяброў у свой час была з Гарадка, але з часам музыкі перасяліліся ў Беласток. Атмасфера „роднага месца" засталася, таму, калі Адам Юзэфовіч з цэнтра культуры (вядомы такcама шмат гадоў як шосты сябра гурту „AIMA") прапанаваў стварыць такі супольны праект, не было сумненняў.

На дыску вынікова чуем восем калядак. Кожны калектыў выконвае па адной у сваім стылі, а ўсе астатнія граюць супольна. Гэта напэўна іншае гучанне, чым тое, да якога ўсе мы прывыклі, слухаючы калядкі ці ў царкве, ці пры застоллі, нават у сучасных аранжыроўках поп-гуртоў. Часам нясуць нас у бок джазу, часам аўтарскай песні, а апошняя калядка некаторым асацыюецца нават з кантры. Разнароднасць, але і ўтульны настрой — гэта дзве асноўныя рысы альбома. А дыск найхутчэй можна будзе набыць ужо 25 студзеня ў Гарадку, дзе таксама чарговы раз будзе можна пачуць супольны выступ „Расспяванага Гарадка" і гурту „Ilo&friends".

**i_basovka@o2.pl**

**Адам ХАРКЕВІЧ**

*******

**Мая маленькая Айчына**
**Гэта лясы, палі і вада**
**І тая прыгожая каліна,**
**Што ў нашым садзе зацвіла.**

**Я тут вучыўся роднай мовы,**
**Пазнаў традыцыі і гульні,**
**І ад бацькоў вучыўся словы**
**Што, як казаць, дзе і калі.**

**Я тут правёў сваё дзяцінства,**
**У гады дарослыя жыву.**
**Я тут даўно ўжо ажаніўся**
**І думаю, што тут памру.**

**Ева САКОВІЧ**

# Каша

**Мая сяброўка Наташа**
**Вельмі любіць кашу.**
**Каша смачная і здаровая**
**У мамы часам яна каляровая.**
**Колеры кашы розныя бываюць**
**І як вясёлка**
**З талеркі хутка знікаюць**

Вершы гімназістаў з Нараўкі



*Каляднікі з Ляўкова, фота Янка Целушэцкі*

# Польска-беларуская крыжаванка № 3

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 51:**

Яга, порт, арт, марак, бор, сонейка, вясёлка, дол, Ян, ангора. Дзе, гара, вол, сяло, нос, Нёман, прабел, тройка, арка, ток, яна.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Анджэліка і Адам Сцепанюкі, Вікторыя Артэмюк з Бельска-Падляшскага, Аня Бяляўская, Патрыцыя Бядрыцкая з Нараўкі, Мартына Леанюк з Орлі, Малгажата Галёнка з Арэшкава, Якуб Голец, Аляксандра Лашэўская, Давід Ясюк, Дамініка Благушэўская з НШ св. КіМ у Беластоку.** Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Cha-rakter | | | | | | | | |
| Poetka | Chmura | | | Aparat | | Rower | | Ty / Echo! | |
| | Lotniska | | | Dzieża | | | Medyk | | |
| | | | | | | | | ech! | |
| | Ty | | Zawieja / Latarnia morska | | | | | | Tato |
| | | Metoda / Pas | | | | | | Sen | |
| | Paź | | | | Kreska | | | | |
| | | | | | Kuzyn | Kot | | | |
| | Skała | | | | | | Bierz | | |



Дзмітрый ШАТЫЛОВІЧ

## ДЗЯЎЧЫНАМ НА ІВАНА КУПАЛУ

Пусціце ў ваду свой вянок,
Бо сёння Івана Купалы,
На хвалі кіруйце свой зрок,
Глядзіце ўвесь час вельмі дбала.

Калі ён плыве, то за ім
Сачыце ля берага рэчкі,
Ці свецяць, не гаснуць зусім
На ім каляровыя свечкі.

Няхай вам трава, як кілім,
Ласкоча дзве босыя ногі,
І сілы магічны уздым
Вам будзе чароўнай падмогай.

Калі паплыве ваш вянок,
То хутка ў вас будзе вяселле,
Вам трэба пячы піражок,
З ім разам чакаць наваселля.

Шукайце навокал тады,
Які кавалер будзе мужам,
Быць можа пакажа сляды,
Вам папараць яркаю ружай.

Ідзіце шукайце яе
У лесе далёка ад рэчкі,
Заззяе на ёй там кальe,
Прыгожым агеньчыкам свечкі.

Ён хутка скіруе ваш крок
Туды, дзе чакае каханы,,
Ідзіце, пусціце вянок,
Бо сёння Купалы Івана.

## ІЗНОЎ ХАЧУ СУСТРЭЦЬ ЦЯБЕ

Ізноў хачу сустрэць цябе,
Нацешыцца ў тваіх абдымках,
І плыць з табой, як карабель
Між хваль жыццёвых без прыпынкаў.

І бачыць у тваіх вачах
І цеплыню, і асалоду,
Каб для мяне, як гледача,
Былі яны узнагародай.

Каб музыку ў тваіх грудзях
Твае мне сэрца грала гучна,
Каб па вядомых нам слядах
Плысці ў жыцці было нам зручна.

Сустрэцца зноў хачу з табой,
Між кветак на чароўным лузе,
Дзе сонца свеціць над ракой,
І ззяе ўсё, як у жамчузе.

Каб танцавалі мы на ім,
Кружыліся на цёлпым ветры,
А кветак радужны кілім
Зваў гучных птушак у паветры.

І ў бляску сонца мы ўдваіх
На крылах нашага жадання
Прыроды чулі цёплы ўздых,
Для нашага тады кахання.

Спяшы хутчэй зноў да мяне,
Чакаю я з табой сустрэчы,
Выглядваю цябе ў акне,
А за акном сляды пустэчы.



Абрад „Шчадрэц" у вёсцы Рог Салігорскага раёна

# Жартавалі да рання!

**Ганна КАНДРАЦЮК**

— *Коб ты шчэ пожыў,* — пажадала свайму шлюбнаму, — *а то самому тяжко...* Бабулька дазванілася на Радыё Рацыя, каб павіншаваць свайго мужа Васю з надыходзячымі імянінамі. Дзеда нядаўна адратавалі пасля інсульту. Доктар гаварыў: *To będzie cud jak przeżyje...* І цуд адбыўся. Зараз бабуля пажадала сабе і свайму мужу крышку здаровечка: — *Грошы то нэконэчно*, — дадала яна, — *бо вжэ нэ вэльмі путрыбны!*

Гэтае пажаданне найбольш уразіла за тысячы астатніх, якія цягам усёй навагодняй ночы з 13 на 14 студзеня 2013 года чуліся па Радыё Рацыя.

Усю ноч, калі ідзе пра пажаданні, царыла вершаваная творчасць: *Каб за год даждалі і зноў закалядавалі! Каб шчасце ў вас вялося і добра ўсім жылося!*

Час ад часу рыфмаванкі вязаліся з прозай, выспетай у агульнапольскіх медыях. Тое, што 13 студзеня праходзіла акцыя Вялікага аркестра святочнай дапамогі мела сваё значэнне:

— *Каб Радыё Рацыя было як Аркестр Оўсяка — сто лет і адзін дзень!* — гэта былі пажаданні ад дзядзькі з Гайнаўкі. Пасля гэты цудоўна-квяцісты тэкст паўтаралі іншыя.

Менавіта з-за таго паўтору яшчэ перад поўначчу змарыў сон.

* * *

Спалучэнне Вялікага аркестра святочнай дапамогі з Новым годам паводле юліянскага стылю нарабіла смаку:

— То хоць пастраляюць! — пачула я ад старэйшых дзядзькоў пасля выхаду з беластоцкай царквы...

Спадзяванне збылося яшчэ дзве гадзіны да поўначы ў цэнтры Беластока, калі на небе з'явіліся каляровыя феерверкі. І гэта была катастрофа — пасля візуальнага спектакля ўсё супакоілася. Назіралася поўнач з новымі спадзяваннямі — а тут капец. Усё гасла, засынала, чарнела...

Штосьці падобнае адбывалася ў Гайнаўцы. Дзесьці ў адзінаццаць вечара Радыё Рацыя з дапамогай слухачоў пачало *будзіць* гайнавян. З дапамогай рушылі эмігранты з Галандыі і Ірландыі. І дзіва! У Гайнаўцы ажывіліся, пачалі званіць, апавядаць...

Пяць хвілін пасля поўначы ў беластоцкім квартале Бацечкі ўспых адзін феерверк. Здавалася — усё. Аднак пасля кароткай паўзы на небе з'явіліся казачныя феерверкі. Відовішча доўжылася дзевяць хвілін.

— Во якія малайцы ў Бацечках!

Але страляніна толькі пачыналася. У гэты раз ажывіўся другі канец колішняй вёскі Бацечкі (зараз квартал горада) і там рашылі перабіць канкурэнцыю. Цягам наступных дзесяці хвілін ішоў рэгулярны абстрэл быццам стралялa зенітная артылерыя. Грукат і страляніна, памешаныя з феерверкамі, спевам, свістам і вясёлым крыкам спыніўся ажно апалове першай ночы:

— Чагосьці такога я яшчэ не пераажыў у Беластоку! — паўтараў муж.

* * *

Пасля поўначы, насуперак правілам прыроды, ажывіліся і слухачы Радыё Рацыя. Магчыма так падзейнічала этнічная кулінарыя. Цягам папярэдніх гадзін вядучыя навагоднюю праграму намаўлялі слухачоў есці бульбяную кішку і запіваць яе шампанскім. Ужо ад самога ўяўлення такога спалучэння ў жываце тварылася „гогатуха".

З кішкай сапраўды адбыўся цуд. У гэты раз этнічная гагатушная страва сама падышла пад парог маёй хаты. Апошняя заўвага мае сваю цану. Цягам папярэдніх гадоў па сапраўдную бульбяную кішку мы выпраўляліся на другі канец горада, у кішачны гастраном „У Чэся", што ля могілак у квартале Выгода.

У гэты раз кішку прадавалі ў новых „Далікатэсах" (магазін адкрылі пасля доўгага рамонту). Зайсці ўсярэдзіну заставіла мяне музыка. У квартале ад рання гудзела як на вяселлі. З перспектывы адлегласці гэтая „прамоцыя" жыва напамінала канцэрт на Радыё Рацыя. Тут жа ляцелі тыя самыя гіты, перароблены на польскую мову. Ля ўвахода стаяла двух музыкантаў, якія запрашалі зайсці ў магазін. Каля іх размясціўся прамацыйны прылавак і грыль, на якім смажылі бульбяную кішку. Тут жа выстойвалі многія аматары кішкі і дыскапольнай музыкі, усе мужчынскага полу...

— А які напітак тут найлепш падыходзіць? — я папрасіла парады ў спецыяліста па прамоцыі кішкі...

— *Ma się rozumieć, piwko*! — адказаў.

Іншы спецыяліст у галіне бульбяной кішкі, карацей сам уласнік гастранома „У Чэся", прапануе ў якасці запойкі звычайны кефір. Падобны густ праяўляюць нашы сяляне на Бельшчыне, Гайнаўшчыне і Сакольшчыне. Таму сустракаць Новы год з Радыё Рацыя прыемна, хоць небяспечна. Магчыма — карма абраду такая. Без фокусаў тут ані руш. Мне асабіста не хапіла гасцей, якія цягам мінулых гадоў выдатна ажыўлялі гэтую ўжо легендарную і доўгачаканую перадачу. Так ці інакш, вядучыя Валя Лаеўская і Зміцер Косцін жартавалі да белага рання. Пасля поўначы, што зусім пярэчыла правілам прыроды, Гайнаўка абудзілася!

# Дэбют 2012

Анатоль ПАРЭМБСКІ



## Беларусы

Беларусы то не трусы,
Знае цэлы свет.
Хоць калечылі прымусам
Болей пяцьсот лет.
У ядро моцнае зліліся,
Строім новы лад.
Тыя што не паддаліся,
А такіх нас шмат.
Наш народ то не інтрузы,
Дзікі нам захват.
Сваю маем землю, неба,
Мову, розум свой.
Нам чужога ніц не трэба,
Мудрасці чужой.
Мірна жыці з суседзямі
Да жыцця пары.
Вечна быць уладарамі
На сваім двары.
Цешыць вока Белавежай,
Нёманам-ракой,
А ўсёй Беларусі межы
Утрымаюць спакой.
Беларусы, беларусы,
Дзе б вы не жылі,
Не паддайцеся прымусу,
Каб вас не прадалі.
Мова наша, наша песня,
Ікона з ікон
Дачакаліся прадвесня
Для сваіх знамён.

## Наша зямля

Усходніх славян мы плямёна,
Зямля наша побач ад векаў.
Тут воды збіраюць Буг, Нёман,
Бог даў жыццядайныя рэкі.

Гаі тут – няма такіх у свеце,
Як у казцы пагоркі, даліны.
Калі вее карысны вецер,
Няма да нядолі прычыны.

Вясной калі сонца прыгрэе,
Атрымаюць птушкі патэнты
І кожны дзень смелей і смелей
Выконваюць свае канцэрты.

А лета, цудоўнае лета
Ад кветкі да ягадкі спелай,
А кожнае істоты мэтай
Каб з іх карысьтаці ўмела.

Як залатая восень засвеціць,
На год цэлы маем багацця.
Спакойна праз зіму намецім
Наступнаму году заняцця.

І зоймемся шчыраю працай,
Яе не пакінем ніколі.
Адна, беларусы, з тых нацый,
Што працай адстойваюць волю.

## Сеніёрам

Адыходзяць гады
Невядома куды,
Невядома калі
Знаем: толькі былі.

Калі дваццаць меў лет,
Каляровы быў свет.
Як радзінку нажыў,
Цэлым сэрцам служыў.

І жыццё пражываў
Як татарскі святы,
І маліўся, не краў,
І не зазнаў дабраты.

І жывеш як ваяк,
Дзетак блізка няма.
Поўзаеш як слімак,
Хата нібы турма.

Там дзе землю таптаў,
Дзе тваёй працы звод,
Сваю долю астаў,
Можа ўспомніць народ.

Дзе бы ты не ступіў,
Хай віднее твой знак.
Ты тут намазаліў,
А было ўсяляк.

Так нячаста было,
Што ад шчасця скакаў.
Не па мыслі ішло,
На свой лёс наракаў.

І пражыў як умеў,
На хлеб маеш, на соль,
Забывай пра злосць, гнеў,
Пра няшчасце, пра боль.

І душы не турбуй,
А кажы што ты пан,
На няўдачы наплюй,
Не раздрапывай ран.

Ні па чым не сумуй,
Быць старайся на сам.
Будзе хай пры баку
Добры сябра, кампан.

---

Ніна БРУЧКО-АНДЖЭЮК



## Сляды

Сляды твае зараслі зялёнай травою,
вінаград пасцяліўся па зямлі,
зрошаны слязьмі ранішняй расы,
з тугі,
за табою.
Яблынька, пасаджана
рукою тваёю,
пасохла...
Толькі сосны пры клуні шумяць
песняй твайго тут існавання,
а высокія вязы
непарушна, як тады,
яшчэ за дзядоў,
удзень і ўначы,
як салдаты стаяць на пасту.
Успаміны, як воблакі ў небе –
адплываюць...
Ціха шэпчуць у прасторы
пра тутэйшае, мінулае,
пра быццё:
– дзядоў, бацькоў і твае.
Усё пражытае намі
хутчэй, ці пазней –
без жалю, без наракання, ціхенька
ідзе ў забыццё.
Не інакш, толькі так
усім на зямлі прамінае жыццё.

## Прамень сонца

Шукаю прошлага шчасця
і знайсці не магу.
Калі ты развітаўся са мною,
я іначай на свет гляджу.
Жаласць сэрца сціскае,
слязьмі пакрываюцца шчокі,
штодзённа.
Я чакаю цябе, як заўсёды,
як у дажджлівую восень пагоды,
хаця знаю, ты пакінуў мяне
назаўсёды.
Хоць мяцеліца стогне навокал
і дарожкі няма,
снег пакрыў магілку тваю,
мне не страшна марозна зіма,
я штодзень
на сустрэчу з табою спяшу,
новыя весткі
із хаты нясу.
Над магілай халоднай
толькі вобраз твой бачу,
як з усмешкай вясёлай
ты глядзіш на мяне
са здымка,
з крыжа,
стаю сумная, адзінокая,
плачу.
Ціха дрэвы шумяць,
тваю просьбу нясуць:
– над магілай не плач,
няма мяне тут!
Я ўсюды цяпер:
у лісцях дрэў,
што над магілай маёй растуць,
у сэрцах птушак,
што вясёлыя песні нясуць,
і ў кветках
якія вясной зацвітуць.
– Ты паслухай мяне:
– Я забыць не магу,
як у тую хвіліну адну
хоць пахмурны быў дзень,
прамень сонца ўпаў на труну.
Развітаўся з табою ціwhen
без плачу, без слова,
мо паслаў указанні
на другое жыццё
без мяне,
без нас,
аднова.

## Не сумуй

Сярод зорак на небе
шукаю яснай, адзінай,
хай мой зрок павядзе,
да цябе.
Хай пачую словы твае:
– дарагая мая, плакаць не трэба,
ні штовечар глядзець у неба.
Я і далёка, і блізка цябе,
шукаю ўчарашняга дня
з табою, дарагая мая.
– Я чую твой голас, мілы мой,
твае нараканні,
– я чую, як сумуе душа твая,
бо плакаць не зможа яна,
– я чую ўдзячнасць тваю
за шчырую памяць маю,
якая штодзень з майго сэрца плыве,
– я чую, як плача вецер у полі,
як мае сэрца трапечацца,
як у няволі,
з немачы, з жалю.
Я штодзень чакаю цябе,
наслухваю стуку ў дзверы, у акно,
мо вернешся,
мо птушачкай прыляціш,
як і калі? – Мне ўсё раўно!
Дзень уцякае за днём,
год за годам бяжыць,
а мне так сумна, так цяжка
адзінокай прыходзіцца жыць.
Зноў чую голас далёкі, знаёмы:
– не плач, не сумуй,
крышку яшчэ радасці пакаштуй,
свет жа цудоўны такі,
для ўсіх, маладых і старых.
– Не чакай, я ўжо не прыйду,
я толькі спакойна
цябе пачакаю.

# Экуменічныя сустрэчы

**Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях у рамках падтрымоўвання традыцыі арганізаваў у салэцтвах гміны экуменічныя сустрэчы. Мерапрыемства зводзілася да супольнага спявання калядак і спажывання вячэры. У вёсцы Дабрывада, напрыклад, такая імпрэза праходзіла 4 снежня 2012 года. У сустрэчы ўдзельнічалі бурмістр Ірэна Негярэвіч, пробашч рымска-каталіцкай парафіі ў Кляшчэлях кс. Ян Красоўскі, святары праваслаўнага прыхода а. Павел Нікіцюк і дыякан Лукаш Барташук, радны Чаромхаўскай гміны Януш Ліпінскі, гурты „Каліна" з Дашоў, „Вішанька-чарэшанька" з Сухавольцаў, мясцовыя пявунні і жыхары вёскі з солтысам Ірэнай Яўдасюк. Ролю вядучага выконваў дырэктар ГАКСіА Лявон Алексяюк.**

З кароткай прамовай выступіла бурмістр Ірэна Негярэвіч. Як належыць кіраўніку самаўрада прывітала гасцей, затым напамянула аб калядлнай традыцыі. У заканчэнні віншавала прысутных з Калядамі і пажадала ў новым 2013 годзе шмат здароўя, радасці і шчасця, а таксама поспехаў у працы і сямейным жыцці. Пасля пачалося супольнае калядаванне. Да згаданых калектываў далучылася група прадстаўнікоў Чаромхі-Станцыі, якая праспявала каталіцкія калядкі. Сустрэча закончылася супольным пачастункам. Калядныя стравы падрыхтавалі мясцовыя гаспадыні, а пахадайнічала за гэта солтыс Ірэна Яўдасюк.

***

Святочная экуменічная Куцця была арганізавана 16 снежня 2012 года ў Гарадскім асяродку культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях. Мерапрыемства ўдастоілі бурмістр Ірэна Негярэвіч, ксёндз Ян Красоўскі, благачынны а. Мікалай Келбашэўскі, а. Павел Нікіцюк, ды група школьнай моладзі і жыхароў Кляшчэляў. Ганаровымі гасцямі былі сужонства Вера і Васіль Казачукі, якім ужо больш за дзевяноста гадоў. Пражылі яны разам больш за семдзесят гадоў. З гэтай нагоды прэзідэнт Рэчы Паспалітай узнагародзіў юбіляраў медалямі „За шматгадовае шлюбнае жыццё". Варта адзначыць, што спадарыня Вера стала лаўрэатам трэцяга месца конкурсу „Найпрыгажэй па-святочнаму аздобленая сядзіба".

Мастацкая частка ў калядным настроі пачалася з выступлення Мартыны Амельяновіч і Агнешкі Гук, якія выканалі калядку „А ў свеце нам". Пасля вучні мясцовага комплексу школ (Магдалена Місюк, Наталля Шымчак, Габрыеля Рошчанка, Магдалена Шэвяк, Андрэй Зіневіч, Караліна Сідарук і Якуб Шчолак), пад кіраўніцтвам настаўніц Агнешкі Кас'янюк і Евы Казлоўскай прадэманстравалі батлейку (на польскай мове). Мясцовыя гурты „Мікстуркі" і „Фантазія" выканалі польскія калядкі, затым „Каліна" з Дашоў і „Вішанька-чарэшанька" з Сухавольцаў — праваслаўныя. Супольнае калядаванне закончылася выступленнем вучаніцы Анны Нікіцюк, якая павіншавала сабраных з Калядамі і разам з удзельнікамі батлейкі выканала калядку „Неба і зямля". Юныя самадзейнікі саступілі месца дэлегацыі 67-й дружыны гарцэраў і спартсменаў з вучнёўскага клуба „Ожэл", якія перадалі Ірэне Негярэвіч навагодні сувенір. Уручаючы падарунак, выказалі яны падзяку самаўраду за падтрымку іхніх дзеянняў. Бурмістр у сваю чаргу абдорыла выступаючых самадзейнікаў адмысловымі падарункамі і ласункамі.


Фота Уладзіміра СІДАРУКА

Святары пасвяцілі багата застаўлены стол

— Ад імя свайго і гмінна-гарадскога самаўрада віншую жыхароў горада і гміны з Божым Нараджэннем і набліжаючымся Новым годам, — сказала бурмістр. — Жадаю спакою, паяднання і радасці. Няхай свята будзе часам адпачынку і ўзаемнай зычлівасці. Набліжаючыся новы 2013 год няхай паспрыяе здзяйсненню нашых мараў у рэалізацыі планаў.

Затым пачалася цырымонія ўзнагароджання сужонства Казачукоў. Бурмістр павіншавала юбіляраў і пажадала шлюбнай пары моцнага здароўя і поспехаў у далейшым сямейным жыцці. У тым часе ў зале пачуўся голас Міхася Арцышэвіча: „Многае лета, Многае лета...". І прысутныя дружна падхапілі гімн з пажаданнем даўгалецця.

— Многія падзеі адбыліся ў маім жыцці, — гаварыла ўсхваляваная 93-гадовая бабуля Вера, — але гэтая найбольш кранае маё сэрца. Шчырае дзякуй за памяць і добрае слова. Дай Бог усім дачакаць у такім здароўі пажылога ўзросту, якога мы з мужам дачакалі...

Варта адзначыць, што бабуля Вера нядрэнна сябе адчувае. Памяць у яе някепская, ды са слыхам і зрокам справа ненайгорш маецца. Быццам у доказ гэтаму спадарыня Вера праспявала даўнейшую калядку. Зала ўзнагародзіла яе бурнымі воплескамі.

Мастацкая частка набліжалася да канца. Гарцэры і самадзейнікі, ва ўборах анёлаў і пастушкоў з батлейкі, раздавалі ў зале просфарку і аплатку. Затым пачалося экуменічнае застолле. Святары згаварылі малітву і пасвяцілі ежу. Стол, упрыгожаны галінкамі яліны і адмысловымі святочнымі свечкамі, быў багата застаўлены традыцыйнымі стравамі. Удзельнікі сустрэчы дзяліліся аплаткай і просфаркай, віншавалі адзін аднаго са святам. У зале царыла сямейная атмасфера і адчувалася, што вось-вось і Каляды...

**Уладзімір СІДАРУК**



Ёсць у беларусаў даволі цікавае слова — „талака". Неяк так сталася, што найчасцей яго пачалі выкарыстоўваць у 80-я гады мінулага стагоддзя, дакладней, у другую іх палову. Менавіта тады розныя групы, што ставілі на мэце нейкае культурна-нацыянальнае адраджэнне, выкарыстоўвалі яго і тут, і там. Сёння сітуацыя крыху змянілася — талака стала своеасаблівым словам-брэндам, які падыходзіць да ўсяго, што так ці інакш тычыцца беларусаў і беларусаарыентаванай дзейнасці. Па вялікім рахунку, кожную арганізацыю можна назваць талакой — памылкі не будзе. У гэтым сэнсе крыху дзіўна, што сайт у інтэрнэце на беларускім дамене з назвай „Талака" з'явіўся адносна нядаўна — напярэдадні прайшоўшага 2012 года.

Калі цікавы інтэрнэт-карыстальнік зазірне на http://talaka.by, то ўбачыць даволі прывабны знешне, але малаінфармацыйны ўнутры сайт, на якім яго ўладальнікі заклікаюць да агульных дзеянняў.

„Будзе створаны вэб-партал, які стане інструментам узаемадзеяння людзей, якія маюць жаданне арганізоўваць рэалізацыю праектаў; экспертаў/прафесіяналаў, якія гатовы дапамагаць сваімі ведамі ўпадабаным праектам; валанцёраў, якія гатовы выконваць задачы, што не патрабуюць спецыяльных ведаў; а таксама дробных і буйных спонсараў, якія гатовы дапамагаць фінансава. Гэта значыць, чалавек, які прыйдзе на Талаку, зможа атрымаць дапамогу ў пошуку каманды, пошуку фінансаў на рэалізацыю, здолее атрымаць кансультацыі спецыялістаў, а таксама дапамогу ад такіх жа, як ён", — распавядаюць стваральнікі сайта на старонцы „Аб праекце".

Асноўным механізмам працы яны называюць кааперацыю і каардынацыю ўсіх зацікаўленых бакоў (арганізатараў праектаў, экспертаў, валанцёраў і спонсараў).

Даволі цікава тое, як „талакоўцы" „перакідваюць мост" з беларускай даўніны, калі ўсё рабілі талакой, у сучаснасць, выкарыстоўваючы пры гэтым нячаста ўжыванае англійскае слова *crowd-sourcing*, расшыфроўваючы яго як „працэс злучэння вялікай колькасці людзей пры дапамозе Сеціва". „Самым вядомым прыкладам краўдсорсінга з'яўляецца Вікіпедыя. Гэта той выпадак, калі кожны робіць драбніцу, а разам атрымліваецца самая вялікая энцыклапедыя ў свеце. Праект Talaka.by з'яўляецца спалучэннем ідэй старажытнай беларускай талакі і такіх новых тэхналогій, як краўдсорсінг", — заяўляецца на сайце.

На жаль, на сайце няма ніводнага прыкладу якіх-кольвечы здзейсненых ідэй, за выключэннем, зразумела, уласна сайта. Магчыма, гэта з-за таго, што, як сведчыць шкала ў левым ніжнім вугле галоўнай старонкі, на „Талацэ" яшчэ праходзіць „дабор неабходных спяцоў у каманду". Сярод актуальных вакансій, аб чым распавядаецца на старонцы „Далучыцца!", — php-праграмісты, вярстальнікі, мэнэджары праектаў, сторы-райтэр, PR-спецыялісты, бізнес-аналітык, юрыст, а таксама папросту „талакоўца па прызванню".

Праўда, стваральнікі „Талакі" чамусьці не пішуць, якую карысць мусіць прынесці праца на карысць данага праекта ў тых, хто мог бы да яго далучыцца. Пра гэта, відаць, трэба высвятляць асобна, зайшоўшы на старонку „Кантакты" і звярнуўшыся да яго кіраўніка і заснавальніка Яўгена Клішэвіча.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Канфарміст з душой патрыёта

# 195 гадоў з дня нараджэння Адама Кіркора



21 студзеня спаўняецца 195 гадоў з дня нараджэння знакавай асобы айчыннай гісторыі — Адама Кіркора, гісторыка, этнографа, археолага, публіцыста, выдаўца, грамадскага дзеяча. Пералік іпастасяў гэтага чалавека ўжо сам па сабе сведчыць пра шматграннасць і шырокі дыяпазон дзейнасці. Паходзіў Кіркор з небагатага беларускага шляхецкага роду татарскага паходжання. Нарадзіўся ён у вёсцы Слівіна Мсціслаўскага павета (зараз гэтая мясцовасць на тэрыторыі Смаленскай вобласці Расійскай Федэрацыі). Першую адукацыю будучы навуковец атрымаў у Магілёўскай гімназіі, пасля чаго выправіўся ў нашу культурную сталіцу Вільню. Ужо тады ў яго з'явілася вялікая цікавасць да этнаграфіі і археалогіі. Аднак, Кіркор не знайшоў сябе ў віленскім грамадскім асяродку і шукаў сваё месца ў розных гарадах — Адэсе, Кракаве, Пецярбургу. Усюды ён спрабаваў сябе як журналіст і выдавец. Няўдала склалася ягонае сямейнае жыццё — шлюб з акторкай Аленай Маеўскай прынёс вялікае расчараванне. Дарогу Кіркору перайшоў не хто іншы як Уладзіслаў Сыракомля, яшчэ адна яркая асоба таго часу. Маеўская ж, мяркуючы па ўсім, любіла больш радыкальных мужчын. Прыняла яна актыўны ўдзел і ў падзеях 1863 года, ад якіх памяркоўны Кіркор застаўся ўбаку.

Заслуга Адама Кіркора перш за ўсё ў тым, што ён актыўна папулярызаваў беларускі фальклор, даводзіў на розных роўнях унікальнасць беларускага народа. У даследніцкай і выдавецкай дзейнасці найбольш важкай стала праца „Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню". Паводле няпэўных звестак сам Кіркор, акрамя шматлікіх археалагічных раскопак і экспедыцый, „пісаў для народа папулярныя беларускія брашуркі" (так сказаў пра яго Максім Багдановіч). Публікаваўся Адам Кіркор пераважна па-польску і па-руску, аднак быў перакананым ліцьвінам і патрыётам свайго краю. Часам называў сябе „не прыродным палякам, а беларусам".

Кіркор, мажліва з-за свайго характару, а можа з-за палітычных абумоўленасцей, міжволі стаў калі не праваднік чужых ідэй, то закладнікам палітычных абставін. Ён даў сябе выкарыстаць у вітанні расейскага цара Аляксандра II. А ўрэшце стаў чужым для ўсіх. Адны вінавацілі Кіркора ў здрадзе, іншыя не давяралі і не давалі спакойна займацца любімай справай. А калі стала пагражаць даўгаватая турма, Кіркор пакінуў халодны Пецярбург і пераехаў у Кракаў, дзе яшчэ нямала зрабіў для навукі. Апошнія гады ён шмат хварэў і памёр у крайняй нястачы.

Адама Кіркора нам варта цаніць за яго ролю ў станаўленні беларускай літаратуры, за яго этнаграфічныя і археалагічныя напрацоўкі. Напэўна ён быў патрыётам сваёй зямлі, але ўсё жыццё пакутаваў ад свайго канфармізму.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Усё лятуць і лятуць тыя коні

**Не жыве Станіслаў Пазнанскі — аўтар назвы беларускіх праграм на Радыё Беласток „Пад знакам Пагоні”.**

**У яго на першым месцы быў чалавек. Ці то герой перадачы, ці слухач. У чэрвені сёлета споўніўся б яму 71 год. Каб жыў... 10 студзеня 2013 г. памёр у Беластоку Станіслаў Пазнанскі — выдатны радыёжурналіст, рэпартажыст, аўтар беларускіх перадач на Радыё Беласток.**

*

Большасць свайго жыцця правёў на Беласточчыне, тут жа ажаніўся, працаваў. Дарэчы, і нарадзіўся на Падляшшы, у беларускім Берасці, дзе і ўзрастаў. Калі сям’я пераехала з Савецкай Беларусі ў Польшчу, як большасць рэпатрыянтаў пасялілася на поўначы краіны. Але ўсё роўна цягнула да роднага. Закончыў беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце і з 1969 года апынуўся ў Беласток. Ано толькі некалькі апошніх гадоў, пасля выхаду на пенсію, правёў у Торуні. Але на апошнія хвіліны жыцця вярнуўся ў Беласток. Праўда, нават на пенсіі час ад часу прыязджаў на Падляшша. Тут жа пражывае частка ягонай сям’і. Час ад часу заходзіў на радыё, але штораз менш было тут ягоных сяброў. А маладыя не надта цікавіліся былымі супрацоўнікамі. Але цягнула яго сюды. Мо не завершыў нейкай перадачы, мо забыўся адказаць на ліст...

Стась працаваў на беластоцкім радыё найперш рыхтуючы перадачы на беларускай мове, праўда, усяго 15 хвілін у тыдзень. Потым на яго месца прыходзілі іншыя, а яго ж пераводзілі ў іншыя рэдакцыі — эканамічную, публіцыстыкі ці сельскагаспадарчую (да пачатку 1990-х гадоў у дзяржаўным радыёвяшчанні былі такія спецылізаваныя рэдакцыі).

Да беларускіх перадач вярнуўся ў пачатку 1990 года. Тады менавіта, дзякуючы актыўным намаганням беларусаў Беласточчыны (БАС, БДА, БГКТ) на радыё ў Беластоку пачаўся пуск штодзённых 15-хвілінных перадач. Пазнанскаму менавіта было даручана сарганізаванне рэдакцыі перадач на беларускай і літоўскай мовах, ды царкоўных перадач. Проста — рэдакцый перадач для нацыянальных меншасцей. Украінцы былі пакліканыя як меншасць пазней.

У нашай беларускай групе было трох журналістаў: Пазнанскі, Уладзіслаў Праховіч і я. Але гэта было не ўсё. Трэба было прыдумаць назву нашай перадачы, больш-менш акрэсліць тэмы, напрамкі, яе характар. А прыгадайма — гэта быў люты-сакавік 1990 года. Савецкі Саюз развальваўся, Беларусь пачала рухацца ў нарамку незалежнасці, людзі прагнулі свабоды, тоеснасці і гістарычнай праўды. Залуналі бел-чырвона-белыя сцягі, а герб Пагоня вяртаўся на сваё пачэснае месца. Менавіта, гэта спадар Пазнанскі прыдумаў і назваў перадачы і пазыўны сігнал. Назва „Пад знакам Пагоні” гучыць да сёння, а пазыўныя ўсё-такі нам адмянілі недзе 6-7 гадоў таму. У той час такая назва многім здавалася мо пафаснай, мо інфантыльнай. Ну, бо як гэта гучыць, скажам, у выпадку палякаў па-за межамі „Orzeł Biały” ці нешта падобнае. Але сёння з перспектывы дваццаці трох гадоў, а нават і раней, калі ў Беларусі да ўлады прыйшоў Аляксандр Лукашэнка з яго антыбеларускай палітыкай — „Пад знакам Пагоні” гучыць быццам нейкі астравок свабоды, незалежнасці.

На працу ў Радыё прымаў мяне менавіта Станіслаў Пазнанскі. Што праўда сякі-такі журналісцкі вопыт я ўжо меў, але рэдагаваць аўтарскую 15-хвілінную перадачу гэта была навізна. Як праводзіць інтэрв’ю, потым як змантаваць размову, як гэтае ўсё скласці ў адну цэласць, як зрабіць падводкі, адводкі, падабраць музыку да сюжэтаў. Зрабіць так, каб было яно займальным і цікавым, каб падчас перадачы слухач не памяняў станцыі. Гэтага ўсяго вучыў мяне Пазнанскі. А трэба сказаць, што тады слухачоў у нас было 10 раз больш як цяпер. Паводле доследаў, у пачатку 1990-х гадоў нашу нядзельную перадачу слухала больш за 170 тысяч слухачоў. Ды не толькі нядзельную. Беларускае слова гучала ў крамах, аўтобусах, офісах. Праўда, гэта быў залаты час радыё наогул, а ў беларускім эфіры былі мы адзінымі.

З таго часу прыгадваюцца мне яшчэ і анекдотныя гісторыі. Для прыкладу: наш суразмоўца памыліўся і замест Міхал Анёл сказаў Арханёл. Тады Стась сядаў за мантажны стол і так пастараўся выразаць тры гукі з Арханёла, што стаў ён Анёлам. А памыліцца нельга было, як сапёру. Не тое, што сёння, калі можна дадзеную функцыю ў камп’ютары паўтараць, вяртаць і г.д. Або, скажам, збеларушчваў словы — суразмоўца казаў „тагды”, а ў эфіры гучала „тады”. Дарэчы, і тады і сёння „тэхніка” гэта быў сродак, галоўнае думка і ідэя сюжэта. На жаль, з гэтым апошнім цяпер стала дрэнна.

Стась не навязваў нам тэм, але і іх інтэрпрэтацый, даваў „свабодную руку”. „Рабі як лічыш гэта правільным”, — казаў. Не значыць гэта, што не было тады націскаў, гэтых зверху, але і збоку. Яны ўвесь час. Але не было так, каб кіраўнік рэдакцыі казаў каго запісваць, а каму даць па шыі. Галоўны рэдактар намякаў, але мы не здаваліся. Прынамсі на пачатку.

Станіслаў Пазнанскі нашай адукацыяй кіраваў няцэлыя два гады, потым яшчэ каля двух гадоў быў сябрам рэдакцыі, рыхтаваў перадачы. Але ўвесь час на працы ў Радыё Беласток, у якой бы не быў рэдакцыі, заўсёды займаўся рэпартажам. Дзесяткі яго рэпартажаў вылучаліся на конкурсах у Польшчы і па-за межамі краіны. Мне пашанцавала працаваць разам са Стасем пры двух ці трох такіх рэпартажах. Адзін з іх гэта „Прытча пра Святую Гару” — пажар і адбудова, смутак і радасць, безвыходнасць і надзея — гэткія падзеі і пачуцці перамешаны ў рэпартажы. Праца над „Прытчай...” цягнулася паўгода, што праўда з перапынкамі. Можна „рэпартаж” зрабіць за дзень-два, як цяпер робяць, але тады якая ягоная вартасць?

„Прытча пра Святую Гару” аказалася найлепшым рэпартажам у Польшчы за 1990 год і пазней прадстаўляла польскае радыёвяшчанне на самым прэстыжным фестывалі ў свеце „PRIX ITALIA”. Менавіта і праца над „Прытчай...” для мяне была інспірацыяй да рэпартажу. Дзякуючы Пазнанскаму, хаця нас, яе аўтараў, было пяцёх: яшчэ Ежы Мушынскі, Уладзіслаў Праховіч і Ян Смык.

Стась навучыў мяне яшчэ аднаго. Як падыходзіць да тэмы, да слухача. Калі трэба кагосьці запісаць, а ён не згаджаецца па тых ці ішых прычынах — трэба пазнаць тыя прычыны, паехаць другі раз, запрасіць на чарку суразмоўцу.

Не думаць, тым болей не пытаць — колькі за гэта заплацяць, як часта бачу ў маладых сённяшніх журналістаў. Тэму разгледзець па меры магчымасці як мага глыбока, усебакова, а не як цяпер і гэта ва ўсіх медыях — плытка, павярхоўна, але хутка і каб было ў гэтым як найбольш сенсацыі.

Адышоў журналіст „старой даты”, які аніяк не ўпісваецца ў цяперашнюю „гонку пацукоў”, журналіст, для якога на першым месцы быў чалавек.

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
**Радыё Беласток**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. цвёрды мінерал з разнаколернымі слаямі для ўпрыгожвання дробных вырабаў = 2 _ 3 _ 4 _ 5 _;
2. пункт, ачко = 1 _ 20 _ 21 _;
3. частка драматычнага твора = 13 _ 14 _ 17 _ 15 _;
4. хрысціянскае трыадзінае бажаство = 12 _ 11 _ 10 _ 18 _ 16 _ 24 _;
5. заразная хвароба, „чорная смерць” = 9 _ 8 _ 7 _ 6 _;
6. паказная раскоша = 23 _ 22 _ 19 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 51 нумара**

Абак, егер, паяц, Ува, Шэйн, Эш, Яна. Рашэнне: **Абяцаная шапка вушэй не грэе**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## 20.01 — 26.01

**(22.03. — 20.04.)** У пачуццях дацані тое, што маеш. Больш задбай аб сваё здароўе. Нойдуць на цябе проста геніяльныя задумы і ідэі, ды не бярыся іх рэалізаваць усе ў адзін дзень. Тугавата з фінансамі. Чацвер — вельмі добры час для бізнесу. 21-25.01. не ўблытайся ў якуюсь афёру.

**(21.04. — 21.05.)** У пачуццях стабілізацыя. Калі не маеш з кім ісці на імпрэзу, усё ж ідзі — там будзе хтосьці без пары. Азвіся да сваякоў. Пільнуйся на вуліцы і на коўзкай лесвіцы. Не хавайся за манітор, калі шэф паблізу. Час спрыяе беспардоннаму змаганню ў кар’еры, дай чаду тым, хто крадзе твае ідэі і звальвае на цябе найчарнейшую работу. У сераду ўдадуцца ўсе справы.

**(22.05. — 22.06.)** Перад табою любоўная ідылія. 21-25.01. атрымаеш неверагодны зарад энергіі, за кароткі час зробіш больш чым за пару тыдняў. 23-27.01. прытармазі свае амбіцыі, не даказвай іншым хто ты такі, бо можаш сабе зашкодзіць. Не слухай фірмавых пад’юджвальнікаў і вечных ныцікаў. Чацвер — найлепшы для творчых планаў.

**(23.06. — 23.07.)** Маеш шчасце да людзей, будзеш падабацца і будуць табе спрыяць. Ты цяпер улюбёнец планет, добрыя прапановы будуць да цябе прыходзіць самі. Пры завірусе ў фірме стой збоку. З некаторымі калегамі па працы варта сустракацца таксама прыватна. Будзеш мець аддзяку за тое, што зрабіў іншым.

**(24.07. — 23.08.)** 23-27.01. маеш шанц зрабіць добры інтарэс. Можаш развязаць нейкую сямейную ці капманейскую загадку. На працы цудоўная атмасфера. З 24.01. (да 28.01.) рыхтуйся да шалёных прыгод, у якія ўцягнуць цябе новыя знаёмыя. Калі штосьці табе дакучае ў здароўі, ідзі хутка да лекара, зрабі аналізы, узі, рэнтген.

**(24.08. — 23.09.)** Пазбягай канфліктаў; лепш працаваць цяпер табе аднаму. 21-25.01. аформіш кожную нават найцяжэйшую справу. Заплануй свае дзеянні на наступныя тыдні, старайся нічога не ўпусціць. Часнок, лімон і мёд перамогуць інфекцыі. Можаш навучыцца хадзіць на лыжах ці ездзіць на каньках.

**(24.09. — 23.10.)** У здароўі не засяроджвайся на сабе, пакінь форумы іпахондрыкаў, нічога сур’ёзнага не павінна цябе турбаваць. Спакойна пі зёлкі. Будзеш выглядаць праменна, еж толькі больш гародніны і садавіны, варушыся і добра высыпайся. Не адмаўляйся ад забавы. Кантралюй свае паводзіны, каб не зрабіць якога глупства. Не паддавайся сумненням.

**(24.10. — 22.11.)** Людзі будуць табе спрыяць, раскрунешся сярод знаёмых. Твая магнетычная індывідуальнасць прыцягвае. Грошай хопіць, але варта паашчаджаць і абдумаць пакупкі. Другая палова тыдня згладзіць усе няпростыя сітуацыі, а тыя, асабліва хто быў тваім непрыяцелем, зменяць адносіны да цябе на прыязныя, а нават больш. У аўторак будзь вельмі асцярожны, мяняючы лямпы. У пятніцу можаш спадзявацца на немалую суму грошай.

**(23.11. — 22.12.)** Спакойны час у фірме. Лепш будзе ўдавацца табе перш за ўсё індывідуальная праца. Старайся бачыць светлыя бакі жыцця. Па магчымасці пазбягай месц вялікага збору людзей. Серада — добры час набыць участак ці дачны домік. У чацвер вельмі жарсная любоўная сустрэча. З 24 (да 28.01.) атрымаеш ад зорак шмат пазітыўнай энергіі, спадзявайся шмат радасных падзей і добрых вестак.

**(23.12. — 20.01.)** Нервовы тыдзень, асцярожнасць захавай перш за ўсё ў фінансах. Не адмаўляйся ад дробных прыемнасцей, не шкадуй на падарункі для блізкіх. У апошнюю дэкаду месяца не праваронь карыснай прапановы, каб падзарабіць. Работы будзе больш, але добры вынік гарантаваны.

**(21.01. — 19.02.)** Добры тыдзень, напоўнены паездкамі, моцнымі эмоцыямі і бурлівымі праяўленнямі пачуццяў. Папраўіцца кандыцыя, але ж правер свае вочы. 23-27.01. удасца табе вырашыць цяжкую справу, ды трэба будзе паказаць немалую кемлівасць.

**(20.02. — 21.03.)** 21-25.01. могуць паявіцца неспадзяваныя перашкоды. Не адмаўляйся з-за абы-чаго, але і не ідзі ўсляпую да мэты. На службовых паездках можаш прыдбаць штосьці добрае і для фірмы, і для сябе. Пры поўні Месяца (27.01.) сваіх мараў і спадзяванняў не прымай за рэальнасць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Куцця і калядаванне ў Арэшкаве

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Непублічная падставовая школа ў Арэшкаве паспяхова дзейнічае ўжо другі школьны год. Настаўнікі разам з бацькамі ладзяць дзеткам разнародныя мерапрыемствы, некаторыя з якіх адкрытыя для жыхароў Арэшкава і навакольных вёсак. Вучні выступаюць па-беларуску на ўроках роднай мовы, на песенных і дэкламатарскіх конкурсах і ў час школьных урачыстасцей. З беларускай праграмай дзеткі прыгожа запрэзентаваліся ў час *Куцці*, якую ўжо традыцыйна наладзілі ў Арэшкавае перад святамі Божага Нараджэння паводле юліянскага календара.**



Айцец Лявонцій Анхім прачытаў фрагмент Евангелля ад Мацвея аб нараджэнні Збавіцеля і сабраныя памаліліся перад вячэрай

Дзеткі, настаўнікі, бацькі і сямейнікі 3 студзеня сабраліся ў спартыўнай зале школы. Вучні запрэзентавалі вельмі багатую праграму на беларускай мове, якую падрыхтавалі пад наглядам настаўніцы беларускай мовы і заадно настаўніцы пачатковага навучання Ірэны Герасімюк, якая здаўна займаецца з мясцовымі вучнямі. Прадстаўленне распачалося з падрыхтоўкі да апошняй вячэры перад Раством Хрыстовым, у час якой вучні прыносілі на стол посныя стравы і аднačасна размаўлялі аб надыходзячым святкаванні. *Куцця* распачалася з малітваў і спажывання прасфоры. Дзеткі не забылі пакласці сена пад абрус і пакінуць пустое месца для неспадзяванага госця.

— Мы ж беларусы і таму супольна з дзеткамі падрыхтавалі праграму на беларускай мове, — заявіла настаўніца Ірэна Герасімюк, звяртаючы ўвагу, што ўсе вучні ходзяць на заняткі па беларускай мове і ў мінулых гадах таксама рыхтавалі *Куццю* згодна з мясцовым абрадам. — У час *Куцці* дзеткі знаёмяцца з даўнімі традыцыямі, малітвай каля іконы перад вячэрай, сенам пад абрусам, пустой талеркай для госця і з поснымі стравамі. Сённяшняе мерапрыемства мы рыхтавалі вялікай школьнай сям'ёй — вучні, настаўнікі і бацькі, усе супольна. Такія святкаванні дазваляюць інтэгравацца ў супольнай грамадзе.

Пасля прадстаўлення вучні прыбралі са стала і пайшлі на адпачынак перад усяночным богаслужэннем. На першы дзень Божага Нараджэння прымалі калянднікаў, якія ўмела абвяшчалі калядкі і віншавалі сабраных з Калядамі. Дзеткі са сваімі настаўнікамі навучыліся спяваць прыгожыя калядкі, якія ўдала запрэзентавалі ў групах перад сябрамі і бацькамі. Выканалі прыгожую звёздачку, з якой выступалі ў час калядавання. Некаторыя вучні пераапрануліся ў кажухі, так як апраналіся калянднікі ў мінулым. Вучні былі радыя, што прымаюць удзел у супольным мерапрыемстве і не скрывалі сваіх эмоцый. Яшчэ калядуюць яны ў Арэшкаве і суседніх вёсках і таму выступ у школе з калядкамі быў таксама добрай трэніроўкай перад вясковым калядаваннем. Атмасфера святаў Божага Нараджэння выклікала ўспамін пра мінулагоднія святкаванні і надзею на цікавыя падарункі і ўдалае сёлетняе святкаванне ў сем'ях.

— У кожнай з нас ёсць свае сем'і, але школьная сям'я таксама важная і такія сустрэчы як сённяшняя інтэгруюць нашую школьную супольнасць, — сказала маці Наталля Суліма. — Мы рады, што школа дзейнічае надалей на месцы, у Арэшкаве, ладзіцца тут так многа мерапрыемстваў і адбываецца вяртанне да нашых традыцый. Па прычыне невялікай колькасці дзетак настаўнікі нашай школы могуць з кожным вучнем займацца амаль індывідуальна і гэта спрыяе адукацыйнаму працэсу.

Сцэнічнае афармленне для *Куцці* рыхтавалі супольна вучні, бацькі і настаўнікі. За выступаючымі дзеткамі красавалася неба з прыгожымі зорачкамі. Выканалі таксама рысунак Божага Нараджэння, падрыхтавалі святочныя ўпрыгожанні з ялінак і свечак. Не забылі павесіць на сцяне ікону, перад якой усе маліліся перад вячэрай і выканаць упрыгожанні з беларускімі ўзорамі.

— Супольная школьная *Куцця* гэта *файная* ідэя. Неўзабаве, бо на першы дзень Вадохрышча, будзе ладзіцца таксама *Ёлка*. Мы маем магчымасць паглядзець на ўмеласці нашых дзетак і супольна святкаваць, — заявіла маці Барбара Мішчук.

Пасля выступаў дзетак была наладжана традыцыйная *Куцця*, якая распачалася з выступлення настаяцеля Праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве протаіерэя Лявонція Анхіма.



— Дарагія браты і сёстры, вучні, настаўнікі, бацькі і госці! Мы сабраліся на Куццю, якая з'яўляецца сямейнай вячэрай. Нам вялікая радасць, што мы можам сустрэць Нараджэнне Ісуса Хрыста, нашага Збавіцеля, які прыходзіць да кожнага чалавека і толькі ад нас залежыць, як мы яго ўспрымем, — гаварыў на беларускай літаратурнай мове айцец Лявонцій, які пажадаў сабраным добрага здароўя.

Святар прачытаў фрагмент Евангелля ад Мацвея, таксама па-беларуску, пра Хрыстовае Нараджэнне і пасля малітвы *Ойча наш* і благаславення харчоў сабраныя з'елі просфару і селі за прыгожа прыбраны і застаўлены поснымі, смачнымі стравамі стол. Маці Іаанна Куптэль яшчэ раней у размове са мной стала пералічваць посныя стравы, падрыхтаваныя на перадсвяточную вячэру, звяртаючы ўвагу на традыцыйнае харчаванне і новыя кулінарныя здабыткі, якія бацькі падрыхтавалі на супольны стол.

— Варэнікі з капустай і грыбамі, *пампушкі*, аладкі з макам, рыбныя стравы, селядцы, гэта толькі частка харчавання, якое мы падрыхтавалі на вячэру, а не забылі пра куццю і наш традыцыйны напітак, кампот з яблык, груш і сліваў, — расказвала Іаанна Куптэль. — Важна таксама, што выступы нашых вучняў праходзяць згодна з тым, што адбывалася на нашых тэрыторыях у мінулым. Дзеткі могуць у такім выпадку знаёміцца з нашымі даўнімі традыцыямі.

Маці Анна Галёнка ў размове са мной выявіла радасць ад дейнасці Непублічнай школы ў Арэшкаве і заявіла, што нядаўна школа купіла машыну для транспарту дзетак, на якой будуць прывозіць вучняў і дашкольнікаў у Арэшкава. Зараз займаюцца тут 16 вучняў і 10 дзетак дашкольнага ўзросту. Адукацыйная субвенцыя на адну асобу ў школьным узросце гэта больш за 1300 злотых у месяц, што дазваляе арганізаваць навучанне ў школе.

— Такія сямейныя святкаванні, як сённяшняе, яднаюць нашую школьную грамадскасць. Вакол школы гуртуецца таксама мясцовая вясковая грамадскасць. Арганізуючы непублічную школу, мы хацелі, каб яна дзейнічала ў сямейнай атмасферы і стараемся рэалізаваць гэтую задуму, — заявіў дырэктар школы Яраслаў Гарбоўскі, які высока ацаніў супольную падрыхтоўку да *Куцці* вучняў, настаўнікаў і бацькоў і вельмі цёпла выказваўся аб выступах дзетак.

— Нядаўна мы адзначалі *Мікалайкі*. Нашыя вучні наведалі гайнаўскі *фікаланд* і гулялі ў басейне. Я са сваімі дзеткамі наведала таксама Беларускі музей, дзе пазнаёмілі нас з выстаўкамі. Асабліва зацікавіла нас мультымедыйная прэзентацыя рамёстваў. Нашыя вучні любяць на ўроках беларускай мовы гуляць у тэатр і займацца адукацыйнымі гульнямі. Дзеткі ахвотна рыхтуюцца да дэкламатарскага конкурсу па беларускай мове, да конкурсу «Пазнай Беларусь» і любяць выступаць у агляде з беларускімі песнямі. Мы выпісваем «Ніву», чытаем у ёй вершыкі, казкі і дзеткі рашаюць крыжаванкі. Я стараюся, каб урокі беларускай мовы былі разнастайнымі і рэалізаванне праграмы перапляталася з гульнямі на беларускай мове, што дзеткі любяць, — расказвала настаўніца беларускай мовы Ірэна Герасімюк.

Сабраныя ў час мерапрыемства віншавалі сябе ўзаемна са святам Раства Хрыстовага, жадалі ўдалага правядзення надыходзячага 2013 года. Асабліва наймалодшым дзеткам *Куцця* была вельмі цікавай сустрэчай, у час якой многаму навучыліся і з многім пазнаёміліся. Посныя вячэры перад святам Раства Хрыстовага яшчэ ладзяцца ў арэшкаўскіх дамах, але толькі ў некаторых сем'ях праводзяцца яны ў так урачыстай атмасферы, якая была ў школе. У арэшкаўскай школе паказалі дзеткам, як адзначалі *Куццю* ў мінулым, а выступы вучняў з вялікай праграмай і калядкамі ўвялі сабраных ва ўзнёслы настрой надыходзячага свята Божага Нараджэння, папярэджанага посным перыядам.

ISSN 0546-1960